ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№47 (2501)

21 лістапада 1996 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

## НЕЗАБЫТЫ І НЕЗАБЫЎНЫ МІКОЛА ЛОБАН

# СЛОВА — БАГАЦЦЕ

Калі мінулі дзесяцігоддзі, рэвалюцыі, войны, пабудовы і перабудовы, адышлі назаўжды ледзь не ўсе пабрацімы, памяць часцей і часцей зноў вяртае ў наіўна акрыленую верую і спадзяваннямі пару юнацтва.

У дваццатыя гады Беларусь адчула сябе Беларуссю, школы загаварылі на роднай мове, адкрываліся педагагічныя тэхнікумы, настаўніцкія курсы, педагагічны факультэт пры універсітэце, першае літаратурнае аб'яднанне "Маладняк" згуртавала больш за 500 маладых аўтараў. Не ўсе яны сталі пісьменнікамі, але з яго выраслі Чарот і Чорны, Дубоўка і Пушча, Бабарэка і Зарэцкі, Лынькоў і Каваль, Мікуліч і Звонак, Дудар і Хведаровіч. Усіх і не пералічыць.

У акругах філіі "Маладняка" выдавалі альманахі, літаратурныя дадаткі да газет і літаратурныя старонкі. У Бабруйску Міхась Лынькоў згуртаваў дзесяткі пачаткоўцаў і выдаваў штомесячную "Вясну" і альманах "Уздым". Большасць аўтараў была з Рагачоўскага педтэхнікума, багатая на таленты Случчына дала Ціхоха Крысько (Васіля Вітку), Яўхіма Кохана, Янку Валасевіча, Апанаса Атаву. З тае пары запомнілася апавяданне і імя Міколы Лобана. Шмат прайшло і забылася аўтараў, а гэтае прозвішча ўрэзалася ў памяць. "Апавяданне да немагчымасці слабое і па-дзіцячы наіўнае", — праз шмат гадоў успамінаў Лобан. Ён са сваіх Чаплічаў падаўся ў Слуцак на педагагічныя курсы, з дзяцінства пісаў вершы і прозу, а друкаваць не адважваўся. А тут пашанцавала. Калі з'явілася ў друку яго першая публікацыя, позна ўвечары ён вяртаўся ў інтэрнат. "Здалёк праз акно ўбачыў у адным пакоі, быццам студэнты нешта чытаюць. Нейкім чуццём я здагадаўся, што яны чытаюць маё апавяданне... Чыталі без насмешак і кпінаў, а я ад сораму не мог стаяць — такім нікчэмным і бездапаможным здалося яно мне".

Такая патрабавальнасць да сябе, да кожнага слова засталася ў Лобана на ўсё жыццё. А блаславіў яго Кузьма Чорны: "У вас ёсць літаратурныя здольнасці. Працуйце над сюжэтам і моваю. Пішыце. К. Чорны".

Прозвішча Лобана запомнілася з тае далёкай бабруйскай "Вясны", а з пісьменнікам не сустракаўся да позняе пары: шляхі нашы ніяк не сыходзіліся па волі бязлітасных лёсаў. Ад першага знаёмства да развітання назаўжды Лобан быў для мяне дарадцам, апорай, шчырай і абаяльнай душой, чаго так не хапае цяпер.

У пяцідзесятыя гады яго прозвішча было на некалькіх акадэмічных слоўніках беларускай мовы, ён быў аўтарам аповесці "Іркуцянка", апавяданняў і артыкулаў у перыядычным друку. Вярнуўшыся ў Беларусь пасля доўгага выгнання, я часам бачыў Лобана на пісьменніцкіх сходах, але залішняя сціпласць не дазваляла падысці і пазнаёміцца. Звёў нас Васіль Вітка. Яны былі суседзямі па вёсках і сябрамі з ранняга юнацтва. Я адразу адчуў сапраўдную прыязнь, біяткоі дабраты і непадробнай шчырасці.

Некалькі пасляваенных гадоў мне давялося панастаўнічаць на багатай талентамі Случчыне, па-



**НА ЗДЫМКУ: Мікола ЛОБАН (злева) і аўтар гэтых радкоў Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**(Працяг на 6-й стар.).**

**Прыватызацыя, адзін з краевугольных камянёў эканамічных пераўтварэнняў, стала сёння для Беларусі, бадай, найбольш балючай праблемай. Рэформы не ідуць, стан гаспадаркі можа выклікаць толькі сум. Усё ўскладняецца яшчэ і тым, што фінансавая дапамога Захаду ставіцца ў прамую залежнасць ад тэмпаў працэсу раздзяржаўлення: будзе ён актыўна рухацца — пойдуць крэдыты, інвестыцыі і г. д., не — нічога і не атрымаем. Да таго, замарожванне прыватызацыі ў Беларусі — у шэрагу прынцыповых перашкод, што замінаюць паскарэнню такой доўгачаканай інтэграцыі з Расіяй. Па просьбе рэдакцыі патлумачыць сітуацыю згадзіўся адказны супрацоўнік Міністэрства па кіраўніцтву дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыяй, начальнік Упраўлення па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю Алег МЕЛЬНІКАЎ.**

## АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# ЦІ ВЫРАСЦЕ ЎРАДЖАЙ НА ПОЛІ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

— Пачну з таго, што яшчэ раз патлумачу: раздзяржаўленне — пераход кіравання прадпрыемствам ад дзяржавы да самога прадпрыемства. Асноўная форма раздзяржаўлення, якой мы займаемся, — стварэнне акцыянерных таварystваў на базе дзяржаўных фабрык, заводаў і г. д. Для гэтага ў 1993 годзе быў прыняты спецыяльны закон, шэраг змяненняў і дапаўненняў да яго, а таксама кожны год стварaецца адпаведная праграма прыватызацыі, якую падпісвае Прэзідэнт. Зараз рыхтуецца такі дакумент на наступны год.

Калі казаць пра тэмпы, то Прэзідэнт падкрэслівае, што прыватызацыя павінна быць не абвальнай, а ўзважанай. Магчыма, сёння яна развіваецца не так ужо хутка, але некаторыя зрухі ёсць.

***— Вы хочаце сказаць, што спецыялісты вашага міністэрства без працы не сядзяць!***

— Як ужо бачна з назвы нашай установы, прыватызацыя і раздзяржаўленне — не адзінае, што мы павінны рабіць. Кола абавязкаў досыць аб'ёмнае: усе пытанні, звязаныя з эфектыўнасцю выкарыстання дзяржмаёмасці, — нашы, і, можа быць, гэтаму трэба нават і больш надаваць увагі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

# АМЕРЫКАНСКАЕ АДКРЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

Мае палемічныя нататкі прысвечаны выдатнай падзеі (не пабаюся гэтага ўзнёслага слова) у беларускай гістарыяграфіі і паліталогіі — выхаду ў свет навукова-папулярнай кнігі даўняга сябра беларускіх адраджэнцаў, руплівіца на ніве нашай культуры ў далёкай Амерыцы, навукоўца, літаратара і журналіста Янкі Запрудніка (Сяргея Вільчыцкага) "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях". Аўтара, нашага земляка з мястэчка Мір, добра ведаюць у Беларусі, і не толькі сябры, але і нядобразычліўцы. Адкрыццём кніга стала спачатку ў Злучаных Штатах Амерыкі, бо ўпершыню выдадзена ў англійскім арыгінале Калумбійскім універсітэтам (1993) у серыі манаграфіяў пра рэспублікі былога Савецкага Саюза. Кнігу ўхвалілі больш за дзесятак рэцэнзентаў у амерыканскім, брытанскім і канадскім друку. Напрыклад, часопіс Йельскага універсітэта ("Рускі агляд") пісаў: "Аўтар гэтай кнігі зрабіў важны ўклад не толькі ў разуменне гістарычнага фону і шанцаў на пабудову новай эканамічнай сістэмы ў Беларусі, — краіне, дзе **толькі пачалося вызначэнне беларускай палітычнай і культурнай тоеснасці** (падкрэслена мною. — **У. К.**), але ўзбагаціў усю серыю выдавецтва..."

Чаму амерыканскаму спецу па "рускіх" праблемах падалося, быццам бы ў Беларусі "толькі пачалося вызначэнне палітычнай і культурнай тоеснасці?" І кім пачалася гэтая беларуская самаідэнтыфікацыя? Для мяне, грэшнага, які сорак гадоў вывучае беларускую гісторыю і культуру, здавалася, што на сярэднявечным этнічна-дзяржаўным узроўні гэта "пачалося" ў эпоху полацкага князя Усяслава Чарадзея (XI стагоддзе), а нацыянальнае самаўсведамленне вызначылася ў эпоху Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча (другая палова XIX стагоддзя). Але на гэтае пытанне ёсць дакладны адказ у прадмове аўтара да амерыканскага выдання кніжкі: "Заходнія гісторыкі, якія дасюль пісалі пра Беларусь, былі найчасцей прадстаўнікамі русафільскай школы гістарыяграфіі. Яны па традыцыі разглядалі Беларусь як "дадатак" да нейкае большае палітычнае адзінкі: у старажытнасці — Кіеўскае Русі, у познім сярэднявеччы — Польшчы, у наступныя перыяды — Расіі або Савецкага Саюза. Але калі краіну разглядаюць як частку большага цэлага, дык ейная ўласная самабытнасць можа атрымацца або выкрыўленая, або наогул адмоўленая. Шырэйшы "імперскі фон", у кантэксце якога пісалі пра Беларусь расійскія, савецкія і заходнія аўтары, цягнуў за сабой крытэрыі, што засланялі своеасаблівасць і нацыянальныя імкненні беларусаў. Такія аўтары не маглі паказаць беларускі народ знутры, у святле яго ўласнае дынамікі і ўласных інтарэсаў".

**(Працяг на 5-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Прыгожая восень у Спораве Бярозаўскага раёна. Ля прычалаў Спораўскага возера застылі лодкі-працаўніцы. На іх у вёсцы перавозяць усё: кармы, сена, дровы. У госці адзін да аднаго многія спораўцы таксама плаваюць на лодках.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



13 лістапада адбыўся рабочы візіт у Маскву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вышэйшага Савета Супольніцтва Расіі і Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Апроч выступлення ў Дзярждуме, А. Лукашэнка меў сустрэчы з некаторымі афіцыйнымі асобамі з кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з Прэм'ер-міністрам Расійскай Федэрацыі Віктарам ЧАРНАМЫРДЗІНЫМ.

З ДУМСКАЙ ТРЫБУНЫ

## ЛУКАШЭНКА ГАТОВЫ АБМЯРКОЎВАЦЬ ПЫТАННІ АБ'ЯДНАННЯ РАСІІ І БЕЛАРУСІ

13 лістапада Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка выступіў у Дзяржаўнай думе Расіі. Галоўная ўвага была ўдзелена беларуска-расійскаму супрацоўніцтву.

Прэзідэнт Беларусі пацвердзіў свой намер, выказаны з думскай трыбуны, правесці ў снежні ў Мінску пасяджэнне беларуска-расійскага міжпарламенцкага сходу, а ў студзені 1997 года — сумеснае пасяджэнне парламентаў дзвюх краін. У інтэрв'ю журналістам у Маскве беларускі кіраўнік заявіў, што гатовы абмяркоўваць на ўказаных форумах пытанні аб'яднання РФ і Беларусі "аж да абвяшчэння рэферэндуму па гэтаму пытанню ў абедзвюх краінах".

Пры гэтым А. Лукашэнка, паведаміла агенцтва Інтэрфакс, асобна адзначыў, што не мае дакладнай пазіцыі адносна формулы аб'яднання — канфедэратыўнай ці якой-небудзь іншай.

Прэзідэнт таксама заявіў, што ў выпадку, калі абедзве дзяржавы пойдуць на якую-небудзь з формаў аб'яднання, дык цяпер ён не гатовы абмяркоўваць тэму магчымага свайго лідэрства ў гэтым дзяржаўным утварэнні.

ЗАЯВА С. ШАРЭЦКАГА

## У БЕЛАРУСІ НЯМА ПРАЦІЎНІКАЎ ІНТЭГРАЦЫІ З РАСІЯЙ

У Беларусі няма праціўнікаў інтэграцыі з Расіяй, заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, каменціруючы выступленне Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ў Дзяржаўнай думе Расійскай Федэрацыі.

Пра гэта "Інтэрфаксу" паведаміла прэс-сакратар Старшыні ВС Вераніка Трызна. Па словах С. Шарэцкага, "Прэзідэнту А. Лукашэнку не трэба спекуляваць на гэтай тэме і тым больш прысвойваць сабе аўтарства гэтай ідэі".

Старшыня ВС Беларусі падкрэсліў таксама, што "працэс інтэграцыі з Расіяй распачаў былы Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч яшчэ да ўвядзення ў краіне пасады прэзідэнта".

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## РЭЗАЛЮЦЫЯ САВЕТА ЕЎРОПЫ

Аб выніках свайго візіту ў Страсбург, дзе ў ходзе пасяджэння Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы разглядалася пытанне аб палітычным становішчы ў Беларусі, расказалі 12 лістапада на брыфінгу ў парламенцкім прэс-цэнтры намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Юрый Малумаў і старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах Пётр Краўчанка.

Як паведаміў прысутным на прэс-канферэнцыі журналістам Пётр Краўчанка, ініцыятарам разгляду ў Страсбургу "беларускага пытання" выступіла старшыня Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр, якая ў кастрычніку з афіцыйным візітам наведала Мінск. У ходзе дыскусіі сваю думку на гэту тэму змаглі выказаць прадстаўнікі шэрага краін, якія ўваходзяць у гэту міжнародную арганізацыю, — Украіны, Літвы, Нарвегіі, Швецыі, Германіі.

Адпаведна палітычным поглядам абодвух парламентарыяў гучалі і іх ацэнкі як самога візіту, так і сацыяльна-палітычнай сітуацыі, што склалася ў Беларусі напярэдадні рэферэндуму. На думку Пятра Краўчанкі, Беларусь не можа быць прынята ў Савет Еўропы ў агляднай будучыні, калі палітычныя працэсы ў рэспубліцы будуць развівацца ў ранейшым напрамку. Сярод асноўных падводных камянёў, што перашкаджаюць інтэграцыі нашай краіны ў еўрапейскія структуры, ён назваў невыкананне прадстаўнікамі выканаўчай улады законаў і рашэнняў Канстытуцыйнага суда, немагчымасць выкарыстання апазіцыяй дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Юрый Малумаў, прызнаўшы, у сваю чаргу, існаванне шэрага асобных парушэнняў у галіне захавання правоў чалавека і законнасці ў нашай краіне, адзначыў, што ў цэлым сітуацыя не выходзіць за рамкі дэмакратычнага працэсу. На яго думку, Савет Еўропы атрымлівае аднабаковую і не заўсёды аб'ектыўную інфармацыю аб падзеях, што адбываюцца ў Беларусі. Тым не менш, сказаў Юрый Малумаў, Пастаянная камісія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў сваёй падагульняючай рэзалюцыі дала ўзважаную ацэнку сітуацыі ў нашай краіне і ўстрымалася ад якіх-небудзь гучных заяў да таго часу, пакуль не будуць атрыманы вынікі прававой экспертызы двух праектаў беларускай Канстытуцыі, якія павінны паступіць у Страсбург ужо ў канцы гэтага года.

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

## ЕВА СПЫХАЛЬСКА — ПАСОЛ ПОЛЬШЧЫ

Сімвалічным можна лічыць той факт, што 11 лістапада, у Дзень незалежнасці Рэспублікі Польшча, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў даверчыя граматы ад новага Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Польшчы ў нашай краіне Евы Спыхальскай.

Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, інтарэсы Польшчы, якія распаўсюджваюцца далёка на ўсход, супадаюць у многім з інтарэсамі нашай краіны. Прэзідэнт выказаў надзею, што за час знаходжання польскага дыпламата на беларускай зямлі адносіны Беларусі і Польшчы ўзнімуцца на больш высокі ўзровень і будзе дасягнута ўзаемаразуменне па ўсіх без выключэння пытаннях. А на праблемы, што існуюць цяпер у беларуска-польскіх адносінах, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, робіць негатыўны ўплыў перш за ўсё "паток дэзінфармацыі, які накіроўваецца ў Польшчу з боку апазіцыі беларускаму Прэзідэнту".

Ацэньваючы пасля заканчэння сустрэчы з Прэзідэнтам Беларусі ўзаемаадносіны суседніх дзяржаў, Ева Спыхальска адзначыла, што пачатак раўнапраўнага беларуска-польскага дыялога пакладзены кіраўнікамі абедзвюх краін Аляксандрам Лукашэнкам і Аляксандрам Квасьнеўскім у ходзе іх сустрэчы ў гэтым годзе ў Віскулях. Будучыня яго, як лічыць дыпламат, залежыць непасрэдна ад людзей, а адкрытасць з абодвух бакоў будзе толькі садзейнічаць умацаванню і пашырэнню добрасуседскіх адносін.

ЗА ПРАЦУ



Восень дзякуе за працу — так можна напісаць пад гэтым здымкам. Дзмітрый КУЗНЯЦОЎ (на пярэднім плане) разам з жонкай Наталляй даглядалі цялят на ферме калгаса імя Кірава Слуцкага раёна. На заробленыя грошы купілі ў роднай гаспадарцы (а "сваім" тут кілаграм прадаюць за 500 рублёў) каля дзвюх тон збожжа для асабістага падворка. Цяпер Дзмітрый з братам і Наталляй дастаўляюць яго дамоў.

Такую карціну можна ўбачыць амаль у кожнай беларускай вёсцы. Як ні цяжка сялянам, а без хлеба на зіму не застаўся ніхто.

КАЛЯ ПРАЖСКАГА ЗАМКА

## ПОМНІК ФРАНЦЫСКУ СКАРЫНЕ

Напрыканцы кастрычніка адбылося адкрыццё помніка Францыску Скарыне ў сталіцы Чэхіі Празе.

Помнік — гэта адлітая з бронзы 25-метровая фігура Францыска Скарыны з пяром і кнігай у руках. Яго аўтары — скульптар Эдуард Астаф'еў і архітэктар Юрый Казакоў.

Акрамя помніка, на будынку адной са старэйшых пражскіх бібліятэк адкрыта прысвечаная Францыску Скарыне памятная мемарыяльная дошка работы беларускага скульптара Алеся Дранца. Дарэчы, па яго праекту планецца ўзвесці помнік Францыску Скарыне каля будынка Акадэміі навук у Мінску.

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА



Узорам добрай прадпрымальніцкай дзейнасці можа служыць прадпрыемства "Аграпак", што ўзнікла на месцы былой воінскай часці ў Ганцавічах. Тут пачалі разліў малдаўскіх і балгарскіх сухіх і паўсухіх вінаградных він. Здаецца, "Аграпак" знайшоў сваю "залатую жылу".

НА ЗДЫМКУ: тэхнолаг Ірына МЕЛЕХАВЕЦ з гатовымі бутэлькамі балгарскага сухога віна "Монастырская изба", якое заўсёды карыстаецца попытам.

ВЫХОДЗІМ У СВЕТ

## «БЕЛАРУСБАНК» ПРЫНЯТЫ Ў «EUROPAY INTERNATIONAL»

Добрая навіна прыйшла з бельгійскага горада Ватэрлоо, дзе знаходзіцца штаб-кватэра Міжнароднай асацыяцыі "Europay International": савет дырэктараў гэтай найпапулярнейшай міжнароднай плацежнай сістэмы вырашыў прыняць у якасці свайго паўнапраўнага члена буйнейшы банк нашай рэспублікі — АСБ "Беларусбанк".

Такім чынам, пасля асваення новага віду банкаўскіх паслуг, якое, натуральна, запатрабуе інвестыцый, "Беларусбанк" атрымае магчымасць прадастаўляць сваім кліентам поўны спектр прадуктаў і паслуг міжнароднай плацежнай сістэмы, у прыватнасці, эмітаваць карткі "Eurocard/Mastercard", Girrus", "Maestro", а таксама ажыццяўляць іх абслугоўванне праз гандлёвую і сервісную сетку і банкаматы.

ЗДАРЭННІ

## ЗАГІНУЎ АНАТОЛЬ МАЙСЕНЯ

Вяртаючыся з 10-дзённай паездкі па Еўропе, 12 лістапада ў 7 гадзін 30 хвілін у час руху па трасе Брэст—Мінск у аўтакатастрофе загінуў прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад" Анатоль Майсеня.

37-гадовы Анатоль Майсеня быў вядомым палітолагам і журналістам як у Беларусі, так і за яе межамі. Цэнтр, які ўзначальваў ён, праводзіў шэраг міжнародных мерапрыемстваў, на якіх абмяркоўваліся грамадска-палітычная сітуацыя ў рэспубліцы, разглядаліся эканамічныя, сацыяльныя і міжнародныя праблемы, а таксама шляхі іх вырашэння. На семінары, што праводзіліся цэнтрам, запрашаліся прадстаўнікі Савета Еўропы, шэраг вядомых беларускіх і замежных грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў.

Паводле даных службы інфармацыі і грамадскіх сувязей НЦСІ "Усход—Захад", 12 лістапада Анатоль Майсеня вяртаўся з дзвюх міжнародных канферэнцый, прысвечаных праблемам міжнароднай бяспекі, якія праходзілі ў Вене і Рыме.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Стаўбцоўскім РАУС, Анатоль Майсеня, знаходзячыся за рулём аўтамабіля "Джып Чэрокі", не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з аўтамабілем "ГАЗ-53", які рухаўся ў тым жа напрамку. Грузавік, што належыць Бярозаўскаму камбінату № 2, ехаў на буксіры ў аўтамабіля "КамАЗ" са скорасцю каля 50 кіламетраў у гадзіну. У той момант, калі "Джып Чэрокі" ўрэзаўся ў "ГАЗ-53", у кабіне грузавіка знаходзіліся вадзіцель і яго жонка, якая пры сутыкненні выпала з машыны. Жанчына ўдарылася, а Анатоль Майсеня пры дастаўцы ў бальніцу памёр. Па факту аварыі заведзена крымінальная справа, аднак у міліцыянераў няма падстаў меркаваць, што гэта дарожна-транспартнае здарэнне — вынік загадзя спланаванай акцыі.

ЮБІЛЕІ

## МІНСКІМ ТЭЛЕСЕТКАМ — СТО ГАДОЎ

14 лістапада работнікі Мінскіх гарадскіх тэлефонных сетак святкавалі юбілей. У гэты дзень сто гадоў назад у Мінску была ўведзена ў эксплуатацыю першая казённая тэлефонная станцыя фірмы "Эрыкон" на '00 нумароў па вуліцы Губернатарскай (цяпер вуліца Леніна).

Сёння Мінская тэлефонная сетка мае больш за 550 тысяч нумароў. Па горадзе пракладзена больш за 10 тысяч кіламетраў кабелю — адлегласць ад Брэста да Уладзівастока. Але пакуль задаволіць поўнасцю заяўкі на ўстаноўку тэлефона (а гэта 60 тысяч абанентаў) не дазваляюць магутнасці: попыт апярэджвае прапанову.

*ВОПЫТ СУПОЛАК ЗАМЕЖЖА*

# «КРУГЛЫ СТОЛ» ЯК СРОДАК ДЛЯ ВЫРАШЭННЯ АГУЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ

Падчас II Канферэнцыі культуры і адукацыі беларускага замежжа, што прайшла ў верасні ў Мінску, адбылося шмат цікавых сустрэч і размоў. Узяць удзел у ёй, як заўсёды, прыехалі і прадстаўнікі Беларуска-эстонскага задзіночання (БЭЗ) Маргарыта Астраумава і Зінаіда Клыга з Кохтла-Ярве. Кожная сустрэча з кіраўнікамі БЭЗ пакідала ў мяне вялікае ўражанне і, відавочна, не толькі таму, што гэтыя дзве жанчыны вельмі сімпатычныя і прыемныя субяседніцы. Больш за ўсё мяне ўражвала акрэсленасць мэтаў дзейнасці задзіночання і шляхі іх дасягнення, прафесійнасць, дальнабачнасць кіраўніцтва. На чарговую сустрэчу з калегамі прыехалі яны з новымі напрацоўкамі і здабыткамі, якія, як мне падаецца, могуць быць цікавымі і для іншых суполак.

Больш за год таму БЭЗ разам з іншымі суполкамі ў рэгіёне Іта-Вірума, дзе жыве вялікая колькасць рускамоўнага насельніцтва, выступілі з ініцыятывай стварэння “круглага стала” па справах нацыянальных меншасцяў пры старшыні мясцовага павета. У яго ўвайшлі восем суполак: беларуская, фінская, немецкая, яўрэйская і некалькі рускіх.

Трэба адзначыць, што ў Эстоніі існуе “круглы стол” па справах нацменшасцяў пры прэзідэнце. Але ён афіцыйны і працуе ў трошкі іншым, так бы мовіць, тэарэтычным накірунку. Ініцыятыва ж знізу стварыць свой “стол” ёсць спроба данесці свае праблемы і прапановы для іх вырашэння да тых, хто імі займаецца “наверсе”. Такі вопыт выкарыстоўваецца ў Эстоніі ўпершыню і, як сведчыць ужо год працы, даволі эфектыўна. Вось што расказала пра працу “стала” старшыня БЭЗ Маргарыта АСТРАУМАВА:

— Мы вырашылі аб'яднацца, бо прыйшлі да разумення, што разам нам будзе лягчэй вырашаць праблемы нацменшасцяў нашага рэгіёна. Разам нам лягчэй дастукацца да мясцовых улад і выйсці таксама да дзяржаўнага кіраўніцтва, калі існуе такая патрэба. Акрамя таго, “круглы стол” — гэта вельмі добрая магчымасць больш даведацца адзін пра аднаго, абменьвацца інфармацыяй, разам распрацоўваць праграмы. На свае пасяджэнні мы запрашаем прадстаўнікоў урада, замежных арганізацый, такіх, як Рада Еўропы, ОБСЕ, іншых рознагаліновых інстытуцый Эстоніі, якія распавядаюць аб эканамічным і палітычным становішчы ў Эстоніі, чытаюць лекцыі па правах чалавека, грамадзянскай супольнасці і г. д. За год нашай працы мы ўжо бачым вынікі: па-першае, разам нам цяпер значна прасцей атрымліваць фінансаванне ад Міністэрства культуры Эстоніі і іншых крыніц; па-другое, нам лягчэй уздымаць найбольш актуальныя пытанні і лабіраваць іх. Нам вельмі прыемна было пачуць меркаванне ад Вольгі Бундэр, якая займаецца справамі нацменшасцяў пры Міністэрстве культуры, што ўзровень нашага “круглага стала” вышэйшы за “прэзідэнцкі”.

27 лістапада адбудзецца канферэнцыя “Інтэграцыя нацыянальных меншасцяў у эстонскае асяроддзе”, якую ўдзельнікі “стала” рыхтавалі некалькі месяцаў. Акрамя прадстаўнікоў урада і мясцовых уладаў, універсітэта (якія з нагоды правялі спецыяльныя сацыялагічныя апытанні), экспертаў прадстаўнічых міжнародных арганізацый, у канферэнцыі возьмуць удзел супрацоўнікі пасольстваў розных краін і іншыя госці. Такі прадстаўнічы сход мае на мэце яшчэ раз звярнуць увагу кіраўніцтва Эстоніі на праблемы нацыянальных меншасцяў, якія жывуць у краіне, сярод якіх на першым плане пытанні па правах чалавека; атрыманне адукацыі, праблемы занятасці, адраджэння, захавання і развіцця нацыянальнай культуры і мовы; сувязі з метраполіямі, стварэнне “мастоў” і двухбаковай сувязі і г. д. Падчас канферэнцыі будзе працаваць выстава, дзе будуць экспанавацца карціны сяброў БЭЗ, уключаючы этнаграфічныя матэрыялы суполкі, а таксама адбудзецца канцэрт, падрыхтаваны і прадстаўнікамі беларускай суполкі.

Матэрыялы канферэнцыі будуць выдадзены асобным зборнікам, які мяркуецца даслаць у ЗБС “Бацькаўшчына”, а таксама ўсім іншым зацікаўленым асобам і ўстановам. Акрамя таго, плануецца ў хуткай будучыні выданне спецыяльнага часопіса для нацыянальных меншасцяў, галоўным рэдактарам якога прызначана Зінаіда Клыга. Ён мае на мэце таксама працаваць на аб'яднанне, высвятляць патрэбы і асвятляць праблемы нацменшасцяў на карысць іх вырашэння.

На развітанне Маргарыта Астраумава сказала:

— Сёння ў розных краінах скардзяцца на тое, як цяжка выжываць усім, а асабліва нацыянальным меншасцям. У гэтым рэчышчы прыклад Эстоніі і нашага “стала”, у прыватнасці, можа паслужыць узорам і прыкладам для іншых суполак СНД. Мы працуем разам, працуем шмат, і вынікі гавораць самі за сябе: мы маем сёння маральную і фінансавую падтрымку на ўсіх узроўнях, мы не адчуваем сябе ў грамадстве кінутымі, а нашы праблемы паступова вырашаюцца.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ЦІ ВЫРАСЦЕ ЎРАДЖАЙ НА ПОЛІ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

***— Складваецца ўражанне: дзяржава прапануе на продаж толькі нешта непрыдатнае, тое, што нікому нявыгаднае.***

— Не зусім так. Хаця праблема тут існуе. Увогуле, натуральна, калі прадавец імкнецца збыць што-небудзь яму непатрэбнае і па добрай цане, а пакупнік — набыць тавар якасны, прычым танна. У кожнага свая зацікаўленасць, а ўраўнаважвае ўсё рынак. Безумоўна, не бессістэмны, — маўляў, цана сама сфарміруецца. Калі ж мы падбіралі аб'екты на продаж, то зыходзілі з таго, што пакупнікі існуюць розныя, з рознымі намерамі: адзін набывае пакет акцый рэнтабельнага прадпрыемства, каб укласці туды свае грошы, яшчэ болей павысіць эфектыўнасць і атрымліваць добры прыбытак, іншаму акцыі спатрэбіліся для перапродажу...

Зразумела, хутчэй за ўсё аддачу даюць дробныя прадпрыемствы, аб'екты камунальнай уласнасці: магазін купілі, рэканструкцыю правялі — праз паўгода ўжо прыбытак пайшоў. Але ў нас ёсць і іншыя прапановы, скажам, домабудаўнічыя камбінаты — напрыклад, у Смаргоні, Магілёве... Сёння няма магчымасці іх нармальнага фінансавання. Што рабіць? Чакаць лепшых часоў? Але за пэўны тэрмін прадпрыемствы прыйдуць у непрыгоднасць — і маральна, і фізічна састарэюць. Таму мы прапануем іх на продаж. Зразумела, не кожны, у каго ёсць грошы, кінецца купляць такі аб'ект: і кошт значны (ад 50 да 100 мільярдаў рублёў), і клопату шмат. Але не ўсё безнадзейна. Трэба проста шукаць, працаваць. Чым і займаемся.

***— Якім шляхам звычайна ідзе прыватызацыя прадпрыемства?***

— Я ўжо казаў пра акцыяніраванне. Акцыі дзеляцца на дзве часткі: першая рэалізуецца грамадзянам Беларусі за чэкі “Маёмасць”, другая — за грошы. Пры продажы за чэкі вытрымліваецца пэўная працэдура. Спачатку члены калектыву акцыяніруемага прадпрыемства могуць абмяняць уласныя чэкі і чэкі блізкіх родзічаў на акцыі свайго завода ці фабрыкі. Астатак, калі дзяржава не плануе трымаць кантрольны пакет, праз аддзяленні Ашчаднага банка (іх 150) трапляе да іншых уладальнікаў чэкаў. Ёсць і другі варыянт — продаж з аўкцыёна.

***— А наколькі гэтыя аўкцыёны эфектыўныя?***

— На пяці чэкавых аўкцыёнах было прададзена 1 мільён 700 тысяч акцый, затрачана 14,6 мільёна чэкаў. Гэта складае прыкладна 13 працэнтаў ад тых чэкаў, што рэалізаваны ці спісаны з рахункаў грамадзян, г. зн. выкарыстаны. Аўкцыён, бадай, асноўная форма набыцця пакетаў акцый за чэкі для юрыдычных асоб. Звычайна пакупкай акцый на аўкцыёнах займаюцца інвестфонды — своеасаблівыя пасрэднікі паміж акцыянерным таварыствам і асобнымі грамадзянамі, якія жадаюць стаць акцыянерамі. Бліжэйшы аўкцыён плануецца правесці 29 лістапада. На ім будуць прапанаваны акцыі прыблізна на 4,5 мільёна чэкаў “Маёмасць”.

***— Які працэнт плануецца рэалізаваць?***

— Практыка паказвае, што звычайна рэалізуецца 50—60 працэнтаў акцыянерных таварыстваў, выстаўленых на продаж. Па колькасці акцый — па-рознаму: ад 30 да 60 працэнтаў. Лічу гэта нармальнымі паказчыкамі: наколькі ведаю, ні на адным аўкцыёне, ні на ўсходзе, ні на захадзе, 100 працэнтаў не прадаецца. Ёсць выпадкі, калі якое-небудзь прадпрыемства чатыры разы будзе выстаўляць свае акцыі безвынікова, а на пяты раптам знойдзецца пакупнік. А бывае, што кошт акцый падчас таргоў нават узрастае ў некалькі разоў.

***— У якой меры будзе выканана сёлетняя праграма прыватызацыі?***

— Мы планавалі прыватызаваць 500 прадпрыемстваў. Але цалкам выканаць гэта не зможам: атрымліваецца прыблізна каля 300 заявак. Узніклі праблемы са зменамі ў заканадаўстве. Акрамя таго, дастаткова працяглы тэрмін працуюць камісіі па ацэнцы маёмасці, рыхтуецца выпуск саміх акцый, потым патрэбны час, каб гэтыя акцыі ўжо трапілі на рынак...

***— Але падобныя абставіны, мабыць, павінны ўлічвацца пры складанні плана? Ці не паўплывала на яго выкананне яшчэ што-небудзь?***

— Магчыма, нам не хапіла смеласці, адпаведных палітычных і эканамічных рашэнняў.

А ўвогуле, Дзяржмаёмасць складала план па заяўках галіновых міністэрстваў. Дапускаю, што некаторыя прадпрыемствы пазней змянілі свае намеры, проста перадумалі акцыяніравацца. А мы гвалтам нічога не робім. Не хочуць — іх права.

***— Ці ёсць сёння жадаючыя прыватызавацца?***

— Так, ёсць.

***— Дробныя ці буйныя прадпрыемствы?***

— Калі ідзе размова пра акцыяніраванне — то тут маюцца на ўвазе буйныя прадпрыемствы. А вось на аўкцыённых конкурсах прадаюцца дробныя: да 100 чалавек ці да 50, у залежнасці да якой галіны адносяцца. За 9 месяцаў у розных гарадах Беларусі толькі па камунальнай уласнасці прайшло 45 аўкцыёнаў і 19 конкурсаў, было прададзена 120 аб'ектаў.

***— Алег Васільевіч, калі некаторыя міжнародныя фінансавыя арганізацыі абвінавачваюць Беларусь у неапраўдана нізкіх тэмпах прыватызацыі — гэта аб'ектыўная адзнака стану спраў?***

Хутчэй у нас і ў Захаду розныя погляды на працэс прыватызацыі. Вось я быў у Егіпце: там за 15 гадоў прыватызавана толькі 3 прадпрыемствы.

***— Егіпет, безумоўна, вельмі цікавая краіна, але можа ў даным выпадку варта раўняцца на Еўропу?***

— А чаму?

***— Хаця б таму, што правільнасць канцэпцый еўрапейскіх спецыялістаў пацвярджаецца высокім узроўнем тамашняга жыцця. Увогуле мы адносім сябе да цэнтра Еўропы, а не да Афрыкі ці Азіі. Тым не менш, здаецца, Беларусь упарта працягвае ісці “сваім шляхам”, але нешта ніяк мы не выб'емся на бальшак.***

— У прынцыпе, што значыць “свой” — “не свой”? Кожная краіна ў вырашэнні праблемы прыватызацыі шукае ўласныя падыходы, улічваючы, безумоўна, вопыт суседзяў. Вось зараз у Вялікабрытаніі адбываецца прыватызацыя асобных аб'ектаў. Зразумела, што гэты працэс адрозніваецца ад прыватызацыі, скажам, у Чэхіі.

А ўвогуле, калі казаць пра чэкавую прыватызацыю, то тут хутчэй акцыя палітычная, чым эканамічная. За час работы на грамадскай вытворчасці кожны работнік унёс свой уклад у яе развіццё. Сёння трэба пэўную долю кожнаму з нас вярнуць. Для гэтага і праводзіцца чэкавая прыватызацыя. Але, прадпрыемству, якое акцыяніруецца, яна нічога не дае: людзі ж не прыходзяць з грашыма, каб вытворчасць магла развівацца далей, інвестыцыі не паступаюць.

***— А ці ёсць тады якая-небудзь карысць простым акцыянерам? Можа нехта атрымлівае нядрэнныя дывідэнды?***

— Я б паставіў пытанне так: што чалавек жадае атрымаць, калі набывае пакет акцый?

***— Мяркую, усё ж такі грошы. Па крайняй меры, у нас.***

— Але ж на Захадзе дывідэнды — дробязь у параўнанні з рынкам каштоўных папер.

***— Мы пакуль не на Захадзе.***

— Добра, паглядзім на сябе. Возьмем, для прыкладу, рэнтабельнае прадпрыемства. Атрыманы чысты прыбытак трэба размеркаваць на дывідэнды і развіццё вытворчасці. Але ж у краіне амаль ці не паўсюль знос абсталявання ў сярэднім 60 і болей працэнтаў. У такой сітуацыі, канешне, дырэктар накіруе грошы ў першую чаргу на мадэрнізацыю. І яшчэ. Сярод акцыянераў звычайна шмат людзей, якія на прадпрыемстве не працуюць. А таму не дзіўна, што нашы ашчадныя дырэктары не вельмі імкнуцца плаціць дывідэнды, а шукаюць нейкі іншы шлях, каб дапамагчы сваім рабочым. На дывідэнды, як правіла, накіроўваюцца каля 5 працэнтаў ад чыстага прыбытку. Дывідэнды ёсць. Але не ў такой колькасці, каб жыць за іх кошт і не працаваць.

***— Якія буйныя прадпрыемствы сёння ператвораны ў акцыянерныя таварыствы?***

— Мінскі гадзіннікавы завод, аб'яднанне “Амкадор”, вытворчае аб'яднанне па выпуску халадзільнікаў “Атлант”... Рыхтуецца да акцыяніравання такі буйны прамысловы аб'ект, як тэлевізійны завод “Гарызонт”.

***— Ходзяць чуткі, пра гэта нядаўна згадваў і Прэзідэнт, што некаторыя прыватызаваныя прадпрыемствы просяцца назад, у дзяржаўныя...***

— Прасіць можна, што захочаш... Калі казаць пра акцыяніраванне, то для поспеху справы ўсё ж такі неабходна, каб у акцыянераў з'явілася пачуццё ўласніка, чалавек павінен усвядоміць, што тут у яго ёсць “кавалак” уласнасці і трэба думаць, як лепей ёю распарадзіцца. Калі гэтага няма, калі псіхалогія застаецца ранейшай, тады і з'яўляюцца скаргі і жаданне ўсё “адкруціць” назад: маўляў, тады дзяржава будзе дапамагаць — з фінансаваннем, рынкамі збыту і г. д. На прыватызаваным прадпрыемстве — пра ўсё клапаціся сам, і за ўсё адказвай сам. Аднак такіх выпадкаў, каб акцыянернае таварыства па просьбе акцыянераў зноў ператварылася ў дзяржаўнае, не ведаю.

***— А выпадкі прыватызацыі выгаднай, карыснай для простых трымальнікаў акцый у вас ёсць?***

— Прыватызацыя — з'ява вельмі шырокая. І хаця складанасцей хапае, усё ж такі ідзе. Значыць, ёсць людзі, якія бачаць у гэтым для сябе карысць. Напрыклад, у канцы кастрычніка мы выставілі на конкурс акцыі шклозавода, што ў гарадскім пасёлку Елізава (ён выпускае слоікі, бутэлькі). Але зараз прадпрыемства, як кажуць, эканамічна “ляжыць на баку”. Знайшлася зацікаўленая фірма, якая выкупіла за грошы дзяржаўны пакет акцый у памеры 46 працэнтаў ад статутнага фонду і абавязалася на працягу года ўкласці ў гэтую вытворчасць 4,5 мільёна долараў. Ужо знайшлі абсталяванне, склалі бізнес-план. Справа рухаецца. Ідуць паступленні ў бюджэт ад продажу акцый, плюс да таго з'явяцца інвестыцыі, прадпрыемства пачне развівацца, будзе створана 120 дадатковых працоўных месцаў для гарадскога пасёлка, што вельмі важна.

Аднак, на жаль, пакуль такіх прыкладаў значна менш, чым хацелася б. Не ўдалося, напрыклад, прадаць пакет акцый навагрудскага завода газавай апаратуры...

Вельмі адрозніваюцца ў лепшы бок прыватызаваныя аб'екты камунальнай уласнасці — тыя ж магазіны, дзе звычайна і асартымент значна багацейшы, і інтэр'еры, абсталяванне сучасныя, ды і абслугоўванне іншае, чым у нашым традыцыйным гандлі.

Параўноўваць працу буйных прадпрыемстваў дзяржаўнай і недзяржаўнай форм уласнасці больш складана. Але калі казаць пра агульныя тэндэнцыі, лічу, што праз прыватызацыю ажыццяўляецца выхад на больш эфектыўныя формы вытворчасці, а гэта, безумоўна, станоўчая з'ява.

***— Як спецыяліст вы задаволены той работай, якая сёння праводзіцца ў галіне прыватызацыі вытворчасці?***

— У любога спецыяліста пачуццё задаволенасці можа быць хіба толькі тады, калі ён выходзіць на пенсію. А пакуль трэба працаваць — поле дзейнасці шырокае.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Зусім не палепшала уніятам, калі рускія імператары Павел I і Аляксандр I з-за боязі распаўсюджвання ў краіне прагрэсіўных ідэй Французскай буржуазнай рэвалюцыі 1789—1794 гадоў свядома пайшлі на збліжэнне з каталіцызмам, шукаючы ў ім надзейную для сваёй палітыкі апору. У канцы снежня 1800 года уніяцкая царква перадаецца практычна ў поўную залежнасць ад каталіцкай, што вельмі садзейнічала схіленню вернікаў ад першай да другой. У такіх варунках уніяцкаму духавенству цяжэй было ахоўваць сваіх вернікаў ад лацінства, чым у горшыя часы перыяду Рэчы Паспалітай, дзяржаўныя ўлады якой не заўсёды так актыўна, як урад Расіі, умешваліся ў рэлігійнае жыццё. Затое цяпер на далучаных да імперыі беларускіх землях польскія католікі і іх ударная сіла — езуіты з небывалай напорыстасцю рабілі эксперымент па канфесійнай пераарыентацыі уніятаў, не спыняючыся нават перад тым, каб перацягнуць на свой бок і каго-небудзь з праваслаўных, асабліва моладзь і асобаў жаночага полу, чаго ўжо не мог дараваць Аляксандр I. Празмерная стараннасць пайшла на шкоду каталіцызму: высылаюць за межы Расіі езуітаў, зачыняюць Полацкую езуіцкую акадэмію... Каталіцкім святарам давялося згарнуць усялякую дзейнасць па перацягванні на свой бок праваслаўных вернікаў, а вось у дачыненні да уніятаў такая палітыка працягвалася, толькі больш асцярожна, дыпламатычна.

Адначасова аднаўляецца, набывае колішнія памеры наступ на уніяцтва з боку праваслаўнай царквы. Бадай, ніхто, як уніяты, так не зведаў зменлівай палітыкі рускіх імператараў у пытаннях рэлігіі. Калі Кацярына II, як адзначана вышэй, не толькі прыхільна ставілася да пераводу вернікаў грэка-рымскай царквы ў праваслаўе, але нават і гвалтам прымушала апошніх да такіх крокаў, дык Павел I і Аляксандр I, наадварот, гэтую канфесію на нейкі час падпарадкоўваюць каталіцкай, што неўзабаве прыняло непажаданы для Рускай праваслаўнай царквы абарот, і таму былі прыняты захады адваротнага характару. Прыдушаныя з двух бакоў уніяты ў масавым парадку адмаўляюцца ад веры сваіх бацькоў. Але не скрозь. Дзесьці яны толькі для блізіру прыстасоўваліся, згаджаліся з новымі ўмовамі, ідучы на рознага роду хітрыкі. Каб утаіць ад пільнага вока расійскіх духоўных і свецкіх чыноўнікаў факт выкарыстання ва уніяцкіх бажніцах беларускай мовы, даводзілася патрэбную для вядзення ў іх службы літаратуру пісаць не кірыліцай, а лацінкай.

Калі таго патрабавалі ўмовы, уніяцкае духавенства дзеля выратавання сваёй веры звярталася і па дапамогу да высокіх дзяржаўных уладаў. У некаторых пытаннях яму ўдавалася выкарыстаць дзеля сваіх мэтаў неўласцівую Кацярыне II талерантнасць Паўла I і Аляксандра I ў справе рэлігійнага жыцця. Вялікім дасягненнем тут можна лічыць адкрыццё ў 1806 годзе ў Полацку Беларускай грэка-уніяцкай семінарыі.

Блізка да сэрца бралі страту уніяцкай царквой сваёй былой магутнасці не толькі святары, але і яе самыя інтэлігентныя вернікі. Добра разумела і студэнцкая моладзь уніяцкага веравызнання, што можа чакаць іх царкву ў выніку нядобразычлівага стаўлення да яе з боку духоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі, польскага касцёла. Каб у чымсьці дапамагчы сваёй царкве ў нялёгкі для яе час, у Віленскім універсітэце па ініцыятыве студэнта з Радашкавічаў Антона Марціновіча (сын святара) засноўваецца студэнцкі уніяцкі гурток. Роля апошняга яшчэ больш узрасла, калі да кіраўніцтва яго прыйшлі выдатныя арганізатары і здольныя да вучобы студэнты Міхаіл Бабро ўскі і Ігнат Даніловіч, якія паходзілі з сем'яў уніяцкіх святароў. У 1823 годзе абодва яны атрымалі званне прафесараў.

Страты ва уніяцкай царквы былі б не такімі адчувальнымі, калі б супроць антыталерантнай палітыкі праваслаўных іерархаў яна выступала адзіным фронтам з каталіцкім касцёлам. Трэба сказаць, што і ў гэты нялёгкі перыяд зусім непадобнымі на брацкія былі адносіны паміж католікамі і уніятамі, у чым часам вінаватымі станавіліся ўлады Расійскай імперыі. Гэта не хто іншы, як яны, далі дазвол на стварэнне рымска-каталіцкай калегіі ў Пецярбургу і пазбавілі такога права уніятаў. Даведаўшыся аб указе імператара Паўла I аб скарачэнні колькасці базыльянскіх кляштараў, якія належалі уніяцкай царкве, католікі тут жа пастараліся падпарадкаваць іх сабе. I ўвогуле трэба сказаць, што рэлігійная палітыка Расіі на далучаных да яе беларускіх землях доўгі час вызначалася пэўнай спрыяльнасцю для каталіцкай і ўзвядзеннем рознага роду перашкодаў для уніяцкай цэркваў, што вельмі ўдала выкарыстала першая. Вось што мы пра гэта знаходзім у вядомага беларускага гісторыка М. Доўнар-Запольскага: "...фактычна уніяцкая царква была ў поўным заняволенні ад рымскай царквы. Рымска-каталіцкая калегія старанна дзейнічала ў сэнсе зліцця абедзвюх цэркваў. Яна часта аддавала уніяцкія кляштары каталіцкім манахам..." Высокія духоўныя асобы гэтай канфесіі дамагліся таго, што базыльяне сталі "галоўнымі праваднікамі каталіцкага ўплыву ва уніяцкай царкве". Не выключана, што такая варожасць з боку рымскай царквы магла падштурхоўваць уніяцкіх іерархаў да збліжэння з праваслаўем, у чым вельмі былі зацікаўлены духоўныя і свецкія ўлады Расійскай імперыі.

Агрэсіўнасць каталіцкага касцёла да уніяцкай царквы набыла ў першай чвэрці XIX стагоддзя такі пагрозлівы характар, што яе галоўны ідэолаг прафесар-славіст Віленскага універсітэта Міхаіл Бабро ўскі разам з сваімі аднадумцамі вымушаныя былі звярнуцца па дапамогу да Масквы. "Гэта быў момант, — піша А. Цвікевіч, — калі правадыры вуніі імкнуліся зрабіць яе незалежнай ад каталіцтва і на вуніяцкай рэлігійнай самастойнасьці падняць да жыцьця занялапую стара-беларускую культуру. Спроба скончылася няўдачай. Мікалай I і Блудоў скарысталі зварот да сябе вуніяцкіх правадыроў у сваіх мэтах і замест дапамогі іх імкненьням сапхнулі яго на рэйкі праваслаўя. У малым маштабе паўтарылася нешта падобнае да гісторыі з Багданам Хмяльніцкім, які ў змаганьні з Польшчай спрабаваў абаперціся на маскоўскага князя і даў апошняму магчымасьць прыбраць Украіну да сваіх рук".

Двухбаковыя ўплывы на уніяцкую царкву з боку рускага праваслаўя і каталіцызму польскага ўзору часта перашкаджалі ёй выпрацоўваць адзіную лінію па тым ці іншым прынцыпова важным пытанні. Неадназначна ўспрыняло уніяцкае духавенства і паўстанне 1830—1831 гадоў. Адна частка святароў, асабліва тая, што знаходзілася пад уплывам базыльянаў, жадала паражэння царскай Расіі за яе варожыя адносіны да грэка-каталіцкай царквы, другая, наадварот, усе свае спадзяванні на выратаванне ўскладвала на канчатковы разгром палякаў, якія не спыняліся займацца акаталічваннем і апалячваннем беларусаў-уніятаў. Пазіцыю гэтай часткі духоўнікаў уніяцкай царквы падзяляў і вядомы прафесар Віленскага універсітэта Міхаіл Бабро ўскі, які, "ачышчаючы унію ад лацінскага ўплыву, — справядліва заўважае Алег Латышонак, — аб'ектыўна садзейнічаў яе збліжэнню з праваслаўем". Але зліваць унію з праваслаўем ён не згаджаўся нават і пад вялікім прымусам.

Трэба аддаць належнае, што пры ўсіх хістаннях уніяцкай царквы ці ў бок праваслаўя, ці ў бок каталіцызму яна ніколі не збіралася здраджваць карэнным інтарэсам беларускага народа і, як толькі магла, шанавала яго традыцыі, быт і мову. У гэтую небяспечную для грэка-католікаў часіну адданым беларускай справе заставаўся полацкі уніяцкі арцыбіскуп Якуб Адам Акела-Мартусевіч. У 1824 годзе ён выдаў "загад вучыць у сьвятынях народ беларускі ў яго роднай мове...". За два гады да прымусовага скасавання уніяцкай царквы (1839) яна яшчэ паспела выдаць беларускі катэхізіс.

Факты сведчаць, што з усіх прадстаўнікоў уніяцкага духавенства ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў найбольш трымаліся беларускасці яго вышэйшыя колы, бо яны менш за астатніх паддаваліся паланізацыі, мелі адносна высокі ўзровень этнічнай самасвядомасці. На жаль, гэтага нельга было сказаць аб пераважнай большасці радавых ксяндзоў, якіх польскаму касцёлу рознымі шляхамі ўдалося разбавіць адданымі яму асобамі. Гэта часта вымушала вышэйшую духоўную уніяцкую ўладу папярэджваць прапольскі настроеных ксяндзоў аб неабходнасці ўжываць беларускую мову ў час казанняў і катэхізацыі насельніцтва. На бяду, такія папярэджванні не заўсёды давалі пажаданы эфект. Але як бы цяжка ні было з уратаваннем беларускай мовы, яна ўсё ж, як пісаў Адам Станкевіч, яшчэ і на пачатку XIX стагоддзя "ў Касьцёле Уніяцкім мела мейсца". Праўда, у данага аўтара наконт гэтага ёсць і выказванні мінорнага плана. Уніяцкую царкву першай чвэрці XIX стагоддзя ён называе польскай цвярдыняй, "спольшчанай часьцінай лацінскага Касьцёла", хаця гісторыі вядомыя факты вельмі энергічнага супраціўлення беларускіх грэка-католікаў палітыцы іх лацінізацыі. Калі б на Беларусі ўсё жыццё скіравалася ў нармальнае нацыянальнае рэчышча, уніяты без усялякай дапамогі з боку скінулі б з сябе польскую апратку. Але гэтага не давалі ім свецкія і духоўныя ўлады Расійскай імперыі, інтэнсіўна культывуючы на Беларусі пасля задушэння паўстання 1830—1831 гадоў свае нормы жыцця, у т. л. і рэлігійнага.

У зусім непадобнай да вышэйапісанай сітуацыі апынулася уніяцтва Беластоцкай акругі, якая на працягу 1795 — 1807 гадоў знаходзілася ў складзе Прусіі. Але і тут грэка-католікі зведвалі польскі ўплыў, хаця скрозь пераважала ўсё нямецкае. Акруга налічвала некалькі дзесяткаў тысяч уніятаў, якія мелі 70 цэркваў, 3 манастыры (Супрасль, Драгічын, Кузніца), дзве школы (дэканальная ў Малой Бераставіцы і адна з самых старадаўніх у Кляшчэлях). "Прускія ўлады з дазволу папы рымскага стварылі ў 1796 годзе самастойную супрасльскую уніяцкую епархію са сваім капітулам і духоўнай семінарыяй. Нешматлікае духавенства супрасльскай епархіі вызначалася выключнай згуртаванасцю (было яно, сапраўды, адной вялікай сям'ёй), рашучасцю ў змаганні за свае правы (ціск з боку рымска-каталіцкай царквы быў тут заўсёды большы, чым на іншых беларускіх землях) і самастойнымі поглядамі на унію..." Не выпадкова на падлеглай Супрасльскай уніяцкай епархіі тэрыторыі нарадзіліся і выраслі людзі, якія, стаўшы прафесарамі Віленскага універсітэта, увайшлі ў нашую гісторыю як пачынальнікі, носьбіты беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта Міхаіл Бабро ўскі і Платон Сасноўскі (абодва з-пад Кляшчэляў), Ігнат Даніловіч і Язэп Ярашэвіч (абодва з-пад Бельска Падляшскага) і Ігнат Анацэвіч (Малая Бераставіца).

Дасягнуты шляхам прымусу перавод даволі значнай колькасці уніяцкіх цэркваў у праваслаўныя не мог адразу стварыць для духоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі колькі-небудзь надзейную апору ў ажыццяўленні імі на беларускіх землях сваёй антынацыянальнай палітыкі. Убраныя ў рызу праваслаўнага папа былыя уніяцкія святары ў душы па-ранейшаму заставаліся прыхільнікамі старой веры. Мо таму многія новыя прадстаўнікі кліру праваслаўнай царквы на Беларусі, г. зн. колішнія уніяты, пасля ўварвання сюды ўлетку 1812 года войскаў Напалеона так ветліва віталі іх, бо ведалі, што ў Францыі ў пытаннях рэлігіі ўжо даўно трывала запанавала талерантнасць і, значыцца, нішто цяпер не будзе пагражаць апальнай у Расіі уніяцкай царкве.

Такія паводзіны уніятаў да сваёй веры вымусілі Найсвяцейшы Сінод пасля выгнання з Беларусі напалеонаўскіх войскаў істотным чынам перагледзець сваё стаўленне да расфармавання данай канфесіі. Цяпер ужо ў такой палітыцы галоўнае ён бачыць не ў ідэалагічнай апрацоўцы простых людзей, радавых уніяцкіх святароў, а ў стварэнні сабе трывалай апоры ў асяроддзі самай высокай эліты гэтай канфесіі. Праблема вырашана на выдатна. Знайшлося нямала уніяцкіх біскупаў, якія гатовы былі за добрую ўзнагароду аддана служыць расійскаму імператару і Найсвяцейшаму Сіноду, але ўсё ж першае месца ў здрадзе уніяцтву належала біскупу Іосіфу Сямашку, якога ўдалося праваслаўю перацягнуць на свой бок у пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя. Ніхто не можа параўнацца з ім па той напорыстасці, з якой ён насаджаў рускія пачаткі і найперш рускую мову ва ўсё, што было звязана з дзейнасцю уніяцкіх храмаў і іх навучальных устаноў. Правядзеннем такой палітыкі русіфікацыі уніяцкай рэлігіі ён разлічваў дасягнуць яе хутчэйшага зліцця з Рускай праваслаўнай царквой.

Памылкова было б думаць, што такім адпетым змагаром за насаджэнне рускага слова на чужой для яго тэрыторыі Іосіф Сямашка з'яўляўся таму, што мо сам вельмі добра валодаў ім. Не, духоўную адукацыю ён атрымаў на польскай мове і доўгі час карыстаўся ёю не толькі пры выкананні царкоўнай службы, але і ў зносінах са сваімі блізкімі і знаёмымі. Свае слабыя веды па рускай мове Іосіф Сямашка нават не раз будзе выкарыстоўваць як падставу адысці ад актыўнай рэлігійнай дзейнасці, але ўжо тады, калі уніятаў адлучаць ад іх веры. За год адліку самай актыўнай дзейнасці Іосіфа Сямашкі супраць грэка-каталіцкай рэлігіі можна прызнаць 1827-мы, калі ён на імя цара паслаў запіску "Аб стане уніяцкай царквы ў Расіі і аб спосабах вяртання уніятаў ва ўлонне праваслаўнай царквы". Прыдрацца да прапанаваных ім спосабаў амаль немагчыма было, таму іх не маглі не ўзяць на ўзбраенне.

Важным крокам на гэтым шляху з'явіўся вывад уніяцкага дэпартамента са структуры рымска-каталіцкай калегіі і пераўтварэнне яго ў грэка-уніяцкую калегію з беспасрэдным падпарадкаваннем апошняй дэпартаменту замежных веравызнанняў. Урад Расіі таксама ўмела выкарыстаў удзел некаторых уніятаў у паўстанні 1830—1831 гадоў для ўвядзення рэпрэсіўных захадаў супраць найбольш важных устаноў гэтай канфесіі. Як толькі высветлілася, што ў некаторых месцах грэка-каталіцкае духавенства стала на бок змагароў за нацыянальную незалежнасць, тут жа ў якасці пакарання было вырашана зачыніць шэраг уніяцкіх кляштараў. Без прамаруджвання пастараліся таксама закрыць і разрабаваць Жыровіцкую уніяцкую семінарыю, настаўнікі якой падтрымалі паўстанцаў. Пазбаўленае такой установы уніяцтва не мела магчымасці ў належнай ступені забяспечваць свае патрэбы ў служыцелях царквы.

Шмат гора прынёс грэка-рымскай царкве Беларусі 1832 год, калі паводле загаду з Пецярбурга "пачалася акцыя адбірання старых вуніяцкіх служэбнікаў і іншых кніжак і замены іх на расейскія праваслаўныя кнігі. З цэркваў і манастыроў цэлае Беларусі ў Полацкую духоўную кансысторыю звозіліся для маленьня выданьні беларускіх вуніяцкіх друкарняў. У дадатак да тых кніг у беларускай мове друкаваліся арыгінальныя навукова-тэалагічныя й мастацкія, галоўна вершаваныя, творы беларускай літаратуры: усе яны, за рэдкімі выключэньнямі, беззваротна загінулі ў агні разам з багаслужбовымі кнігамі. Вуніяцкія сьвятары спрабавалі ратаваць іх: ведамы выпадак, калі 2 красавіка 1834 году ў Наваградку на рукі еп. Язэпа (Сямашкі) 56 сьвятароў злажылі пратэст, але, на загад цара, усе былі пакараныя за гэта годам манастырскай турмы".

Такая палітыка моцна падрывала асновы уніяцкай царквы, але, на здзіў яе ворагам, яна ўсё яшчэ жыла. Таму працягваўся пошук новых сродкаў барацьбы з ёю. Галоўным лічылася перацягнуць на бок праваслаўя уніяцкае прыходскае духавенства. Дзеля гэтага епіскапа Іосіфа Сямашку ставяць у 1833 годзе на чале Літоўскай епархіі (сядзіба ў Вільні). Разам з полацкім праваслаўным епіскапам Смарагдам пачалі "аб'езды епархій; уніяцкім папам прапаноўвалася добраахвотна даць падпіску аб далучэнні да праваслаўя; тыя, што далі згоду, атрымлівалі аднаразовую грашовую дапамогу, пераводы на больш выгодныя ганаровыя месцы, асабліва ў гарадскія цэрквы і саборы, а таксама ўзнагароды скуф'ямі, камілаўкамі, залатымі нагруднымі крыжамі і ордэнамі. Наадварот, папы, з боку якіх сустракаліся ўпартыя "претыкания", пераводзіліся ў горшыя месцы альбо, паводле рэкамедацыяў архірэяў, пазбаўляліся прыходу і высылаліся ўнутр імперыі ў манастыры. Над памешчыкамі быў устаноўлены неаслабны нагляд, і да тых, хто вёў агітацыю супраць далучэння, ужываліся таксама розныя адміністрацыйныя меры ўздзеяння".

На гэты раз апрацоўка уніяцкага духавенства прайшла больш паспяхова. Праз чатыры гады ўжо каля 2/3 прыходскага кліру і ўсе епіскапы далі згоду на далучэнне да праваслаўя. У 1837 годзе ў адпаведнасці з указам цара Мікалая I уніяцкая царква падпарадкавана Найсвяцейшаму Сіноду.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 39—46.**



Будынак пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі.

# АМЕРЫКАНСКАЕ АДКРЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Як гаворыцца, вось табе і квіта, пане Мікіта! Вось табе хвалёная-перахвалёная "заходняя" навука. Аказваецца, што яе настаўнікамі былі "ўсходнія вучоныя" з "праваслаўнага" Саюза Рускага Народа (у прастамоўі — чарнасоценцы), якіх наш аўтар па-беларуску звышдалікатна называе "русафільскай школай гістарыяграфіі". Цікавае, "между протчым", як казаў Купалавы герой Мікіта Зносак, "единомыслие" ў галовах "усходніх" і "заходніх" вучоных. Але калі ў Беларусі гэтую чарнасоценскую міфалогію паўтараюць адстаўныя навуковыя дзяды прабальшавіцкай арыентацыі, то на "захадзе" яе капіруюць, не саромеючыся, ліберальныя маладыя прафесары. Аднак жа гэта — толькі маё дапушчэнне. Мабыць, і там ёсць свае "дзяды" ад навукі.

Вернемся да беларускага выдання вельмі своечасовай кніжкі Янкі Запрудніка. Аўтарызаваны пераклад яго даследавання (перакладчык з англійскай мовы Мікола Раманоўскі) нядаўна з'явіўся ў свет дзякуючы Выдавецкаму цэнтру "Бацькаўшчына" (кіраўнік выдавецтва Яўген Лецка) і Беларускаму фонду Сораса. Рэдактар кніжкі — знакаміты літаратар і гісторык Уладзімір Арлоў. Але рэдактар, дэмакрат і далікатны чалавек, як мне падалося, абмежаваўся самым патрэбным — літаратурнай і факталагічнай рэдакцыяй, не ўмешваўся ў аўтарскія ацэнкі і канцэпцыі. Каб, не дай Бог, наш заморскі сябра не падумаў, што грамадскае выдавецтва аддало яго твор пад цэнзуру. Вось чаму маё хваленне і сяброўская крытыка датычацца толькі аўтара, а не рэдактара і выдаўца. Пачну сваё памінанне "за здароўе", як гэта прызвычаена ў нас паводле царкоўнай традыцыі.

Нашаму паважанаму калегу пашчасціла зрабіць тое, што не ўдалося яшчэ нікому: змясціць у адной кніжцы сярэдняга памеру змест скарочанай "энцыклапедыі", ахапіўшы пятнаццаць стагоддзяў — ад рассялення протабеларускіх плямёнаў (крывічы, гістарычныя ліцвіны) і найменняў (Русь, Літва, Белая Русь, Беларусь) да сучасных Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, рэферэндуму і Канстытуцыі. Ад першых беларускіх княстваў — да Рэспублікі Беларусь, як сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурна-нацыянальных праблемаў і магчымасцяў інтэграцыі ў сучасным свеце.

Першая частка гэтага смелага па задуме нарыса (132 старонкі) ёсць уласна гісторыя, другая, крыху большая частка (156) старонак) — беларуская сучаснасць, паводле жанру, — спалучэнне аналітычнага даследавання і летапісу нашага дынамічнага дзесяцігоддзя (1985—1995); урэшце, у асобную, трэцюю частку можна выдзеліць храналогію (асноўныя даты беларускай гісторыі ў кантэксце вузлавых падзей заходнееўрапейскай гісторыі) і навуковы апарат — бібліяграфія ды імянны паказальнік. Наяўнасць асноўных прыкметаў навуковай манаграфіі і публіцыстычнага, месцамі яркага, вобразнага стылю, паслядоўная храналагічная вытрыманасць выкладання багатага фактычнага матэрыялу, аб'яднанага выразнай аўтарскай канцэпцыяй, набліжае кнігу Я. Запрудніка да падручніка, разлічанага на шырокі дыяпазон спецыялізацыі студэнтаў ад гуманітарнага да прыродазнаўчага і тэхнічнага профіляў. З другога боку, падзел дзевяці раздзелаў на параграфы (у першым раздзеле гэта: Назва. Край. Народ. Першыя княствы. Дынастычная унія з Польшчай. Гарады, мястэчкі і гандаль. Націск з усходу і захаду. Унія з Польшчай. Рэфармацыя і контррэфармацыя. Залаты век беларускай культуры. Рэлігійная унія і яе палітычныя наступствы), а кожнага параграфа рубрыкі (у першым параграфе гэта: Змена сэнсу і ўстойлівасць формы. Русь. Белая Русь, Беларусь. Гістарычныя ліцвіны) набліжаюць кніжку да школьнага падручніка са зручнай для запамінання кампазіцыяй. Да падручніка вышэйшай навучальнай установы яе набліжае яшчэ наяўнасць статыстычных фактаў, табліц, дыяграм, а да школьнага дыдактычнага дапаможніка — шматлікія ілюстрацыі, партрэты герояў нашай гісторыі.

Як усякая кніжка такога кшталту, манаграфія-летапіс Я. Запрудніка пісалася часткова на аснове сваіх уласных, раней апублікаваных даследаванняў, часткова на крытычным аналізе і селекцыі іншых беларускіх, расійскіх, амерыканскіх, заходнееўрапейскіх і польскіх публікацыяў па беларусазнаўчай тэматыцы, у тым ліку па газетных матэрыялах. Элементы кампілятыўнасці (у добрым сэнсе гэтага слова) у такіх выданнях навучальна-асветніцкага характару непазбежныя. Мы не можам патрабаваць ад аўтара фундаментальнага аналізу неаднародных па жанру і неахопных па аб'ёму крыніц. Для гэтага яму спатрэбілася б не 5—7 гадоў (магчымы тэрмін напісання кніжкі), а ўсё жыццё, і выдаваць не адзін, а шмат тамоў — нешта накшталт "Гісторыі Расіі з найстаражытных часоў" С. Салаўёва.

Адрозненне манаграфіі Я. Запрудніка ад традыцыйных падручнікаў па гісторыі ў наступным. Гісторыкі традыцыйна акцэнтуюць увагу на мінуўшчыне, пазначаюць сучаснасць толькі ў яе агульных тэндэнцыях. Аўтар кнігі "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях", наадварот, прысвячае мінуўшчыне толькі пашыраны ўводны нарыс, узнаўляе толькі асноўныя падзеі гісторыі, называе толькі яе некаторых герояў, якія паўплывалі на лёс нацыі. Акцэнт пераносіцца на сучаснасць, апошняе дзесяцігоддзе. Гэта збліжае яго кніжку з рэтраспектыўным падручнікам беларусазнаўчай паліталогіі. Спадзяюся, што яна ўжо крыху адукавала еўра-амерыканскіх палітолагаў у гэтай новай для іх галіне ведаў. Чарга цяпер за іх калегамі ў Беларусі і, мабыць, ва ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропе і Расіі.

Дарэчы, у ідэалагічным (і аксіялагічным) плане кніга напісана з памяркоўных ліберальна-дэмакратычных пазіцыяў, таму, на мой погляд, прымальная для палітыкаў і настаўнікаў розных палітычных арыентацый. Для яе прымання дастаткова мінімальнага этычнага імператыву — прызнання таго, што Беларусь — не этнічны матэрыял для суседніх імперскіх памкненняў, а суб'ект гісторыі і міжнароднага права.

Мае прэтэнзіі да кнігі, якія можна выказаць у кароткіх газетных нататках, таксама мінімальныя. Ёсць у ёй відавочныя пралікі, часткова канцэптуальнага, а больш ацэначнага характару. Яны, як мне здаецца, вынікаюць з творчай біяграфіі аўтара, які ад свайго далёкага юнацтва жыве ў ЗША і толькі апошняе пяцігоддзе бывае госцем на сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне. Там, "далёка за акіянам", наш калега, мабыць, запамятаў звычайныя ў нас славянскія хітрыкі, знакамітыя "пацёмкінскія вёскі", а ў Беларусі нешта накшталт такіх жа "хутароў". Калі ж улічыць, што ён, адукаваны гісторык, найбольш працаваў у галіне масавай журналістыкі, то можна зразумець яго залішнюю даверлівасць да афіцыйнай і газетнай інфармацыі, у нас разлічанай на ролю "арганізатара і прапагандыста" (палітычны заказ самога У. І. Леніна). На жаль, Я. Запруднік, мабыць, не паспеў пакарыстацца новымі даследаваннямі ўласна беларускай гістарыяграфіі і культуралогіі, якая ўжо часткова сфармавалася ў апошняе дзесяцігоддзе, мае пэўныя фундаментальныя набыткі — калі не сістэмныя, то хоць бы ў форме важкіх фрагментаў. Але яны друкаваліся не ў масавым штодзённым друку, якому, на мой погляд, занадта даверыўся даследчык, а ў навуковых і літаратурна-асветніцкіх часопісах і тыднёвіках, а за апошняе пяцігоддзе — і ў штогадовіках "Albaruthenica" (1991—1995).

Вось, урэшце, некалькі маіх канкрэтных заўваг. У пачатку кнігі аўтар піша: "Русь (гэтую назву шмат хто на Захадзе памылкова перакладае як "Расія")

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ПАДПІСКА-97

# ІНФАРМАЦЫЙНАЯ БЛАКАДА З БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Амаль месяц, як пачалася падпіска на газеты і часопісы на Украіне. З цікавасцю пазнаёміўся з каталогам "Украінська пошта": 696 газет і часопісаў, якія выдаюцца ў сталіцы краіны Кіеве, а таксама ў Львове, Харкаве, Адэсе, Сімферопалі, Данецку, Луганску, Ужгарадзе, Івана-Франкоўску, Сумах, Палтаве, Жытоміры, Чарнаўцах, Цярнопалі, Кіраваградзе, Вінніцы, шэрагу іншых гарадоў, можа выбраць сабе кожны жыхар краіны, незалежна ад таго, дзе ён тут пражывае. Былі б толькі грыўны ў кішэні! Газеты і часопісы выдаюцца ў нас тут на ўкраінскай, расійскай, румынскай, венгерскай, польскай, балгарскай, яўрэйскай мовах. У 1997 годзе ўпершыню выйдзе ў свет штомесячнік на армянскай і ўкраінскай мовах адначасова, які мае назву "Арагац"...

На Украіне пражывае, калі верыць статыстыцы, амаль 450 тысяч беларусаў. На правялікі жаль, на нашай роднай мове ў каталогу "Українська пошта" няма аніводнага выдання, хаця мне добра вядома, што ў мінулым годзе ў Львове тамтэйшымі беларусамі пачала выдавацца штомесячная газета "Беларус Галічыны"... Для замежнага чытача выдаюцца перыядычныя выданні на англійскай. ...Апроч каталога "Укрпошти" ў пунктах прыёму падпіскі на наступны год з'явіўся і зялёна-белы каталог "Периодические издания России и стран СНГ", за які я адразу ж учапіўся, мяркуючы, што ўжо сярод "стран СНГ" абавязкова будзе Беларусь, мая гістарычная Бацькаўшчына. Якое ж было горкае маё расчараванне, калі я перагарнуў гэты каталог ад першай да апошняй, 80-й старонкі: Беларуссю ў ім і не "пахне", калі не лічыць невялічкага кур'ёзу (толькі ці "кур'ёз" гэта?!): у раздзеле "Журналы России" раптам бачу аж траіх "прымакоў": два часопісы "Ксюша" (адзін для тых, хто шые, а другі — для тых, хто вяжа) і часопіс "Мастер" (для тых, хто нешта там сабе майструе!..) Якім чынам гэтыя часопісы з Беларусі апынуліся сярод расійскіх часопісаў, аднаму Пану Богу хіба што вядома, ды дзялкам з Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь, адзін з якіх у інтэрв'ю карэспандэнтцы газеты "Голас Радзімы" Таісе Бандарэнка казаў, што "...з паштовымі штэмпелямі ў краіне ўсё ў парадку", а яны як былі ў большасці яшчэ савецкіх часоў, такімі і засталіся: я атрымліваю з Беларусі безліч карэспандэнцыі, і амаль усе канверты "ўпрыгожвае" штэмпель з надпісам "СССР" і сярпом з малатком... А СССР ужо няма, дзякаваць усё таму ж Пану Богу, 6 гадоў! За 6 гадоў ужо і ў Расіі памянялі паштовыя штэмпелі, на якіх замест "СССР" стаіць "РОССИЯ". Дык мо чакаюць паштавікі, калі Беларусь "увальецца" ў гэтую самую "Россию"?! І гэтыя тры часопісы-"прымакі" — пробны "шар"?!

Як бы там ні было, але інфармацыйны голад з Беларусі працягнецца і ў будучым 1997 годзе. Выручае адно "Голас Радзімы" ды беларускамоўныя перадачы з Прагі радыё "Свабода", дзе можна пачуць штодзённа аператыўную і праўдзівую інфармацыю аб жыцці ў суседняй з Украінай Беларусі, але гэтага зусім недастаткова, бо хацелася б пачытаць і "Літаратуру і мастацтва", "Нашу ніву", "Свабоду", "Культуру", "Наша слова", "Спадчыну", "Звязду", якія прывык чытаць у мінулыя добрыя часы, калі на Украіне можна было свабодна і нядорага падпісацца на любое выданне з Бацькаўшчыны. Дык чаму ж зараз нам гэтага не можна зрабіць?!

У расійска-СНГоўскім каталогу апроч расійскіх газет і часопісаў ёсць газета "Свободная Грузия" (Грузія), дзве азербайджанскія газеты: "Бакинский рабочий" і "Панорама", аж 16 выданняў з Казахстана (10 газеты і 6 часопісаў), і аж 38 — з Узбекістана (25 газет і 13 часопісаў!) — у мяне закралася нейкае "д'ябальскае" адчуванне, што гэта не Беларусь мяжуе з Украінай, а ...Узбекістан, што на Украіне жыве 450 тысяч не беларусаў, а ўзбекаў!..

Шкада, што ніхто, апроч рэдакцыі "Голасу Радзімы", не рупіцца пра сваіх суродзічаў за межамі Бацькаўшчыны...

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

Украіна, г. Ізяслаў.



**Гарадскі пасёлак Лагішын Пінскага раёна налічвае тры тысячы жыхароў. Спакон веку тут жылі, дружылі, радніліся прадстаўнікі дзвюх галоўных рэлігійных канфесій у Беларусі — праваслаўнай і каталіцкай. Адзін насупраць аднаго стаяць і два храмы. Знаходзяць агульную мову паміж сабой настаяцель Свята-Праабражэнскай царквы свяшчэннік Уладзімір АГІЕВІЧ і ксёндз касцёла Св. Пятра і Паўла МІРАСЛАЎ (на здымку).**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

ПРЭМ'ЕРА



**У Тэатры юнага гледача незвычайная прэм'ера. Вядомая казка "Кошкін дом" атрымала ў тэатры новае і нечаканае гучанне. Казку паклаў на музыку кампазітар Рыгор Уласюк. Пераклад казкі на беларускую мову зрабіў паэт Рыгор Барадулін.**

**Жанр незвычайнага спектакля можна вызначыць падзагалоўкам — "гуляем у оперу". І гэта сапраўды так. Акцёры Тэатра юнага гледача не прэтэндуюць на лаўры оперных спевакоў, яны проста разам з тымі, хто сядзіць у зале, гуляюць у оперу. Рэжысёр спектакля — Аляксандр Маркевіч, кіраўнік пастаноўкі, мастацкі кіраўнік тэатра — Андрэй Андросік, мастакі — Ларыса Рулёва і Уладзімір Голубеў.**

**НА ЗДЫМКУ: у сцэне са спектакля "Кошкін дом" заняты артысты А. СТАНІЛЕВІЧ, Е. ДОЎНАР, Н. ЛЯОНЧЫК.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

# АМЕРЫКАНСКАЕ АДКРЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

спачатку была шматком зямлі ў трохкутніку, утвораным гарадамі сучаснае Украіны: Кіевам, Чарнігавам і Пераяслаўлем [...]. А калі цэнтр улады гэтае імперыі перамясціўся ў сярэдзіне XIV ст. у Маскву, тэрмін "Русь" таксама стаў азначаць найперш Маскоўю". На жаль, тут атрымалася блытаніна тэрмінаў. З далёкіх часоў "Повести временных лет" вядома, што Русь — варажска-скандзінаўская ваенная дружына з аднайменнага племені, закліканая славянамі ў якасці ваеннай сілы. Пазней яна патанула ў славянскім моры, але дала назву Кіеўскаму ды іншым княствам, а пазней і хрысціянскай царкве ўсходне-візантыйскага абраду. Геаграфічны трохкутнік — не "шматок зямлі", а ядро будучай Украіны. І тэрмін "Русь" нават у XVI—XVII стагоддзях азначаў найперш Украіну і ўсходнюю Беларусь (Полаччыну) і толькі пазней трансфармаваўся з Масковіі ў Расію. Не думаю, што пераклад старадаўняй Русі тэрмінам Расія — наіўная мадэрнізацыя па няведанню. Хутчэй тут — палітычная тэндэнцыя, перанятая ад чарнасоценскіх фальсіфікатараў гісторыі.

Аўтар некрытычна пераняў ад савецкай гістарыяграфіі геаграфічныя паняцці Полацкая (Турава-Пінская, Наваградская) "зямля" замест дакладнага палітоніма "княства" альбо "дзяржава". Таксама "цяга" праваслаўных "земляў" Вялікага Княства Літоўскага "да Маскоўі" ў XIV—XV стагоддзях нікім не даказана. Хутчэй за ўсё было ўзаемнае "перацягванне земляў" зверху, ваеннаю сілаю. Гэта можна было б палічыць за агаворкі, каб не рубрыка, прысвечаная Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года. Тут аўтар пераняў у свой "набытак" звычайную для "русафільскай школы" ў гістарыяграфіі тэндэнцыйнасць, праігнараваўшы цэлае мора першакрыніц па гісторыі уніяцкай царквы ў Беларусі і на Украіне. Шаноўны спадар Запруднік піша пра канец XVI — пачатак XVII стагоддзяў (час усталявання уніяцтва): "У тых абставінах, калі ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай дамінаваў польскі элемент, рэлігійная унія немінуча зрабілася сродкам паланізацыі беларусаў і украінцаў і таму сустрэла шырокі адпор..."

Мне падалося, што гэтая інвектыва — цытата з артыкулаў афіцыйнага бальшавіцкага гісторыка Л. Абэцэдарскага. Каб мой калега прачытаў дзесяткі дакументаў і актаў, напісаных якраз тады І. Пацеем, Язэпам Руцкім (дарэчы, не палякам, а беларусам з фальварка Рута, значыцца, земляком Янкі Запрудніка) і вялікім князем ды каралём Жыгімонтам III Вазай (шведам паводле радаводу) "нашай моваи чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася" (Ф. Багушэвіч), то, магчыма, пагадзіўся б са мною: якраз уніяцкая пісьменнасць таго часу была апошнім узлётам старабеларускай літаратурнай мовы. Варта ўсё ж было паслухаць думкі славутага даследчыка хрысціянства ў Беларусі Адама Станкевіча, які пісаў: без уніяцкага бар'ера як "трэцяй сілы" паміж двума левіяфанамі беларуская нацыя ўтапілася б у моры маскоўскага імперыялізму, больш грознага і больш татальнага, чым польскі нацыяналізм.

Дарэчы, у ацэнцы ролі уніяцтва XVIII стагоддзя шаноўны Янка Запруднік супярэчыць сам сабе: спачатку сцвярджае, што уніяцкі клір, "выхаваны ў езуіцкіх і піярскіх школах [...], лепш гаварыў па-польску і па-лацінску, чым на мове сваёй паствы". І тут жа — антытэзіс: "Аднак сялянства, якое станавіла 90 працэнтаў і больш як на 80 працэнтаў было перайшоўшым ва уніяцкую веру (верагодна, усё ж такі — царкву, бо вера была адна — хрысціянская. — **У. К.**), захавала родную мову". У такім выпадку спытаемся: "Як жа ўсё-такі сумовіўся уніяцкі клір з васьмюдзесяццю працэнтамі нашага сялянства?" Хіба што на беларуска-лацінскай трасянцы, як у камічных інтэрмедыях школьнага тэатра.

Аналізу грунтоўных раздзелаў "Узнікненне і ўвасабленне беларускай нацыянальнай ідэі", "Савецкая і польская палітыка ў падзеленай Беларусі (1921—1941)", "Ваенныя разбурэнні і русіфікацыя" (1941—1945), "Канфлікт паміж нацыянальнай інтэлігенцыяй і камуністамі" (1985—1992), "Палітычныя сілы" (1985—1992), "Эканоміка: мера поспеху Перабудовы" (1985—1992), "Суседзі і свет" (1985—1992), урэшце, дапаўненне да амерыканскага выдання "Спробы адраджэння і аўтарытарная рэакцыя (1993—1996)" варта было б прысвяціць асобны артыкул, бо тут — усе праблемы нашай непрадказальнай сучаснасці. Ёсць тут, на першы погляд, дробныя недакладнасці, якія маюць прынцыповае значэнне, бо могуць арыентаваць грамадства на тупіковыя прагнозы і рэкамендацыі. Вось, напрыклад, спадар Запруднік, спасылаючыся на артыкул нейкага Несвятайлава "Хворая навука ў хворым грамадстве", робіць выснову, быццам бы "палітычная драма" ў Беларусі ды "іншых частках былога СССР" вынікае з адсталай эканомікі і безнадзейнага адставання ад тэхналагічнага прагрэсу "заходняга свету".

Але ўсе гэтыя школьныя практыкаванні мы даўно ўжо прайшлі. Як быццам бы на адсталай тэхналогіі і ручной вытворчасці можна пабудаваць ультрасучасную зброю, стратэгічныя ракеты, ажыццявіць палёты ў космас і прадэманстраваць да таго падобныя штукі! Не будзем губляць здаровага сэнсу. Прычына "драмы" ў тым, што ваенна-прамысловы комплекс "з'ядаў" каля 70 працэнтаў матэрыяльных, людскіх і валютных рэсурсаў, астатнія 30 працэнтаў знікалі ў безгаспадарлівасці, ад падаўлення творчай ініцыятывы, ператварэння чалавечай асобы ў дадатак да партыйна-бюракратычнай і той жа тэхналагічнай машыны. А сёння, каб знішчыць, нейтралізаваць альбо утылізаваць гэтыя назапашванні зброі, патрэбна яшчэ па крайняй меры палова ўжо затрачаных рэсурсаў.

Што датычыцца праблем эканамічнага ажыўлення, структурнай перабудовы і прыватызацыі непамерна вялікай і безнадзейна заблытанай дзяржаўнай маёмасці, то яны невырашальныя без вяртання самай працавітай і таленавітай часткі грамадства зробленых цяжкай працай нярэдка некалькіх пакаленняў валютных укладаў у былы Ашчадны банк СССР. Замест дэталёвага аналізу праблемы, на які ў нас няма часу і месца, я папытаюся ў даследчыкаў, на якіх абапіраецца спадар Запруднік у сваіх ацэнках і высновах: "Што б сталася з амерыканскім грамадствам, каб у адзін "драматычны" дзень іх уклады ў банкі экспрапрыіравалі?"

Урэшце, некалькі заўваг пра апошні нечаканы для мяне пасаж у кніжцы нашага калегі. Маю на ўвазе першую рубрыку ў раздзеле "Культура" пад назваю "Тэндэнцыйнае тлумачэнне рэферэндуму". Аўтар прапанаваў дакладную ацэнку вынікаў рэферэндуму, аднак чамусьці дадаў наіўную інтэрпрэтацыю: "У грамадства пашырылася фальшывае тлумачэнне, што рэферэндум быў галасаваннем не за раўнапраўе рускай мовы, а супраць беларускай. Нават абаронцы беларушчыны, падсвядома, пачалі тлумачыць наданне рускай мове "роўнага статусу" як голас супраць беларускай мовы. У спрэчках аб мовах рэдка сталіся спасылкі на "прабеларускамоўную" Канстытуцыю з дамаганнем ейнага выканання, а найчасцей гучаць сцверджанні пра "антыбеларускі" характар рэферэндуму".

Няўжо наш калега забыўся, што і да рэферэндуму ніякага "роўнага статусу" беларускай і расейскай моваў не было, бо апошняя мова, дакладней, яе мясцовы жаргон, панаваў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, у тым ліку ў масавай культуры? Фармальны прынцып дзяржаўнасці нашай мовы даваў толькі надзею на будучыню, гэдак праз гадоў 20—30. Не ведаю, што хацеў даказаць гаспадзін Прэзідэнт, мабыць ён рамантык і аптыміст. Але тыя, хто "запраграмаваў" рэферэндум, добра ведалі, што хацелі. А хацелі яны дабіць нашу духоўную маці-мову, каб яна больш ніколі ўжо не паднялася. А цяпер у лепшым выпадку адбудзецца выцясненне яе ў вузкую нішу нацыянальнай эліты і, як вынік, — музеізацыя беларускай культурнай традыцыі. Што і адбываецца ў сённяшняй Беларусі.

**Уладзімір КОНАН.**

# СЛОВА — БАГАЦЦЕ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

хадзіць, пакасіць, пакапаць з вучнямі бульбу ў блізкім і далейшым наваколлі. Так што было пра што пагаварыць яшчэ з адным случаком — Міколам Лобанам, бо ў розны час нашы сцежкі ішлі побач і перакрыжоўваліся. Мы выпырхнулі з-пад аднаго лынькоўскага крыла, былі амаль равеснікі і добра разумелі адзін аднаго.

Тое, што ён расказваў пры першых сустрэчах, я прачытаў у 1973 годзе ў яго аўтабіяграфіі. Пераказваць яе не адважваюся, помнячы папярэджанне Ахматавай: "Двацццаць працэнтаў мемуараў так ці інакш фальшыўкі. Самавольнае ўвядзенне простай мовы трэба прызнаць дзеяннем, падлеглым крымінальнаму пакаранню". Цалкам згодны з выдатнаю паэтэсаю, бо з уласнага вопыту ведаю, як некаторыя "мемуарысты" распісваюць сябе і прыдумляюць, чаго ніколі не было. З аднаго такога ўспамінальшчыка я некалі пажартаваў:

**Дайце болей мне паперы,**
**Я і слова не схлушу, —**
**Пра Шэкспіра і Гамера**
**Успаміны напішу.**

Таму часам буду звяртацца да простай мовы Лобана з яго аўтабіяграфіі "Так пачыналася дарога": "Сто васемнаццаць кіламетраў ад Мінска — Чаплічы, старажытнае валаснoе сяло. Тут жылі мае бацькі, тут пачалося маё жыццё. У сямейнай памятнай кнізе рукою бацькі прыгожым каліграфічным почыркам было напісана: "Родилась тёлка 12 января 1911 года". Радком ніжэй: "Крестился Николай 14 октября 1911 года". Вось адкуль пачыналася дарога аднаго з Лабановічаў. Так, так, Лабановічаў. "Кажуць, калі дзед першы раз пайшоў у школу, настаўнік запытаў у яго: "Як прозвішча?" — "Лабановіч". — "Як Лабановіч? Мужык шляхецкае прозвішча носіш? Лабан тваё прозвішча". Так і запісаў.

Бацька — Павел Восіпавіч прайшоў доўгую службу ў царскім войску і, як і большасць мужыкоў, абрусеў, "маці ж была захавальніца роднай мовы ў сям'і. Яна цудоўна валодала польскаю, але ў сям'і гаварыла толькі па-беларуску".

Ці не адтуль пачынаецца найбагатшы знаўца жывой мовы, пісьменнік і вучоны лінгвіст Мікола Лобан. Ён рана захапіўся літаратурай, назапашваннем моўных багаццяў, кніга пашырала і паглыбляла яго духоўны свет. Пайшоў у Слуцак на двухгадовыя педагагічныя курсы. Пасябраваў з слуцкімі паэтамі Ціхамам Крысько (Васілём Віткам) і Яўхімам Коханам, пісаў і шліфаваў апавяданні і не спяшаўся іх пасылаць у друк. Настаўнічаць паехаў у палескую вёску Пласток. Там працаваў актыўна на Бабруйшчыне ў трыццатыя гады паэт Апанас Атава, непадалёк, у саўгасе "Сосны", выкладаў Алесь Жаўрук. Было маленькае літаратурнае асяроддзе. Потым перавялі настаўнічаць паміж Любанню і Урэччам у даўжэзную вёску Таль. "Выкладаю мову і літаратуру. Аднойчы іду на ўрок і бачу: па гразкай вуліцы сяла ў бок Любані ідуць фурманкі. На пярэдняй — Янка Купала і Платон Галавач... А праз некаторы час чытаю ў "Звяздзе" паэму "Над ракой Арэсай", і зноў прага пісаць".

Калі і ў той час некаторыя невукі зневажалі і даядалі нашу мову, Мікола ўспамінаў сваё вучнёўства ў слуцкай сямігодцы: "Гаварыць на беларускай літаратурнай мове было модна... У тыя гады беларуская мова ў вуснах вясковай інтэлігенцыі была прыкметай высокай гарадской культуры. Калі школа перайшла на беларускую мову, любімы выкладчык матэматыкі не вылучаўся асаблівым красамоўствам, і нам здавалася, што яму цяжка дасца гэты пераход. Усе чакалі першага ўрока. І вось ён настаў. Майсей Ільіч Казак загаварыў па-беларуску. Мы пранікліся яшчэ большай павагай да яго... нам паказалася, што ён ніколі так прыгожа не гаварыў".

Не выпадкова ў кароткай аўтабіяграфіі, на першы погляд, Лобан спыняецца на неістотных фактах. Менавіта там — выток яго лінгвістычнага і мастакоўскага таленту, яго неадольнага натхнення. У пісьменніка павінна быць біяграфія, складанае і няпростае жыццё. Усяго гэтага аж занадта было ў жыцці Міколы Лобана. Досыць пераліку яго настаўніцкіх пераездаў з раёна ў раён, вучобы спачатку ў Кіеўскім універсітэце, потым у нашым, Беларускім.

Айчынная вайна захапіла яго ў Мінску. Вось тут зноў дамо слова самому Міколу Паўлавічу. "Двое сутак пад варожымі бомбамі. У армію не бяруць — не прыгодны для вайсковай службы. Іду на Магілёў, з Магілёва ў Клімавічы, з Клімавіч — на Рослаў, на Арол, Ліпецк у галоднай змучанай камандзе". У правінцыяльным гарадку іх сустрэў натоўп жанчын. "Адна з іх выйшла на сярэдзіну вуліцы, расставіла рукі і закрычала: "Куды ж вы, мужчыны? На каго нас пакідаеце?" ...Што мы маглі сказаць гэтай жанчыне?" Нарэшце ўдалося добраахвотніку Лобану трапіць на Волхаўскі фронт. "11 кастрычніка 1941 года быў паранены асколкам ручной гранаты пад станцыяй Мга. Адзін з асколкаў і цяпер сядзіць у шыйным пазванку, у вельмі далікатным месцы, прылашчыўшыся да сардэчнага нерва".

Спачатку параненага хацелі везці ў Маскву да прафесара Бурдэнкі, але "ці то ў мяне чыну не хапіла, ці проста забыліся і пагрузілі не ў самалёт, а ў санітарны поезд. На нейкім перагоне ў вагон трапіла авіяцыйная бомба. З усяго вагона адзін астаюся жывы. Да майго "любімага" асколка ў пазванку дадаюцца раструшчаныя косці абедзвюх ног. Сем месяцаў шпіталю ў Кіраве і Іркуцку — і я паўнацэнны настаўнік у пасёлку Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобласці".

Самыя жахлівыя факты біяграфіі Лобан успамінаў з лёгкай іроніяй і ўсмешкаю. Мне ўспамінаецца нават яго голас, павольная інтанацыя. Кожную зіму мы жылі ў Доме творчасці імя Якуба Коласа пад Мінскам. Дзень у дзень Лобан, Гілевіч і я хадзілі на лыжах, потым чаявалі ў чыім-небудзь пакоі, і кожны ўспамінаў сваё; часам даседжваліся да позняга вечара. І дагэтуль тыя размовы дарагія, у нейкай ступені прароцкія і незабыўныя. Мікола ніколі не згушчаў жахі, часцей пакеплiваў з сябе. Мабыць сам лёс збярог таленавітага празаіка і патрыёта ўсяго роднага дзеля нашай літаратуры і навукі, дабраты і ачышчэння душ усіх, каго зводзіў з ім лёс.

Што ж было далей? Ачуняўшы, у абсмаленым шыняля прыклыпаў на падмаскоўную станцыю Сходня. Там знайшоў прытулак Беларускі дзяржаўны універсітэт. У аўдыторыі ён сустрэўся і пасябраваў з параненым Іванам Мележам. Яны разам слухалі лекцыі і адначасова выкладалі студэнтам вайсковую справу.

Пасля універсітэта Мікола Паўлавіч стаў адным з вядучых лінгвістаў нашай Акадэміі навук. Амаль усе слоўнікі пасляваеннай пары выходзілі з удзелам Лобана, ён кіраваў падрыхтоўкай "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" ў 5 тамах. І ўсё ж у першую чаргу Лобан — пісьменнік. У 1953 годзе выйшла ягоная аповесць "Іркуцянка". Галоўнае было наперадзе: не давалі спакою ўбачаныя, перажытыя, перапакутаваныя падзеі нашага трагічнага, перетрушчанага часу. Вырашыў паказаць яго на лёсе аднаго роду Шэметаў. Параіўся са сваім земляком і паважаным майстрам Янкам Скрыганом. "Дык у цябе ўсё ёсць. Трэба пісаць". І потым настойваў Скрыган.

У 1964 годзе выйшла першая кніга задуманай трылогіі — "На парозе будучыні". Яе заўважылі чытачы і крытыка: чыталі, хвалілі, захапляліся чысцінёю мовы. Падзеі развіваліся ў фарватэры тагачаснай ідэалагічнай плыні, але з глыбокім веданнем бытавой і псіхалагічнай фактуры. Другая кніга "Гарадок Устронь" (псеўданім Слуцка) дапісвалася ў Каралішчавіцкім доме творчасці. Пераважна на машынцы. Відаць, той асколачак, што прылашчыўся да сардэчнага нерва, усё часцей напамінаў пра сябе: трымцела сэрца, дрыжалі рукі, пальцы не трымалі ручку, а лыжных палак Мікола не кідаў, і не канчаліся нашы гаворкі. У Міколавым пакоі святло загаралася задоўга да світання і гарэла далёка за поўнач: правіў, па некалькі разоў перадрукоўваў, перасільваючы боль.

Часам Мікола распытваў мяне пра перажытае і забароненае падпіскай "о неразглашении" і ўгаворваў пісаць пра ўсю праўду. А яго герой Андрэй Шэмет, як большасць сумленных яго сучаснікаў, прайшоў усе кругі партыйнага раю і рэпрэсіўнага пекла, партызаншчыну і вайну так і з неадмытымі плямамі. Аднойчы, калі зімовы дзень схіліўся на захад, Мікола прызнаўся, што ў "Гарадку Устронь" паставіў апошнюю кропку. Сябры віншавалі, а нехта ці то жартам, ці ўсур'ёз прапанаваў у часе вячэры разам адзначыць завяршэнне рамана. Каб не было сумна і суха, трэба было нешта прыдбаць і аздобіць калектыўную вячэру. Мы з Міколам сталі на лыжы і выправіліся ў суседні пасёлак па добра ўтаптанай пісьменнікамі сцежцы.

Увечары дапазна працягваліся вясёлыя пісьменніцкія "дажынкі", жарты, пажаданні і смех. У 1970 годзе раман апублікавала "Полымя", а неўзабаве ён выйшаў асобнаю кнігаю, ёмісты, сумленны і чытабельны. Асабліва напакутаваўся Мікола з апошняю кнігаю трылогіі — "Шэметы". Жыццё Андрэя Шэмета не ўкладвалася ў стандарты ідэалагічнай схемы: яно было не такім, як патрабавалі там, "наверсе". Рэдактары прымушалі па некалькі разоў перарабляць адно і тое ж месца, вярталіся да ранейшых варыянтаў, згаджаліся з аргументамі аўтара, але моўчкі тыцкалі пальцам у столь: "Ідзі туды і ўзгадняй. Як скажуць, так і будзе". Ён выпрошваў пропуск на прыём, абіваў парогі, часам далікатна і хітра псаваў твор. Нарэшце аж у 1981 годзе "Шэметы" завяршылі трылогію.

Блуканні па пакутах дабівалі пісьменніка, але як ні трэсла хвароба, няскораны "ваяўнік" не здаваўся: пісаў і пісаў кожны дзень, думаў, разважаў, абураўся несправядлівасцямі, ўладным панствам і галечаю вёскі, духоўным спусташэннем некаторай часткі сучаснікаў, спагадаў пакрыўджаным, як мог, заступаўся за іх. З'яўляліся кароткія эсэ, артыкулы, асацыяцыі і склалі апошнюю кнігу "Пяць раніц тыдня". Яе спагадліва і хутка выдалі ў 1984 годзе. У кожнай "раніцы" столькі роздуму, назіранняў, вострага бачання наваколля, акварэльны жывапіс словам. Кнігу аформіла дачка, мастачка Ірына Лобан. Мікола ніколі не быў абыякавы да чэрствасці і зла. Запаветам Лобана было выказванне Льва Талстога: "Спакой — душэўная подласць". Ён ніколі не быў спакойны. Зусім хворы, дрыготкімі рукамі ён сам даводзіў да ладу рукапіс трэцяга тома выбраных твораў, але пабачыць іх не паспеў. Я ведаў пра цяжкі стан свайго друга, часта званіў, а ён не любіў скардзіцца. 19 снежня я ўгаварыў Вітку, і мы паехалі да Лобана ў водведкі. Ён быў увесь у клопатах і працы і рады, што яго не забываюць сябры. Мы пілі каву, спрабавалі жартаваць, расказвалі навіны. Ён нам падараваў свае "Пяць раніц тыдня" з аўтографамі, напісанымі хісткім почыркам.

Мы доўга развітваліся з гасцінным гаспадаром і блізкім другам. Мікола ўсміхаўся і прасіў заходзіць часцей. Па дарозе дамоў мы ўвесь час маўчалі — не адважваліся гаварыць пра сваю трывогу, не назалялі і па тэлефоне...

28 снежня апоўдні пазваніла Браніслава Леапольдаўна: "А Колі больш няма". Працялі навылёт тэлефонныя гудкі. Не скажу — неспадзяваны, а ўдар быў страшны: жалобаю заканчваўся 1984 год. Хавалі з Дома літаратара. І ў сцюжу труна патанала ў жывых кветках, на шчоках у многіх застывалі слязінкі. Колькі ж ён мог напісаць кніг за гэтыя дванаццаць гадоў і адзначыць сваё васьмідзесяціпяцігоддзе! Нядаўна адышоў і мой апошні друг — равеснік і пабрацім Колі — Васіль Вітка. У каго цяпер спытаць, з кім параіцца, паспавядацца пра набалелае?

Але я не самотны: адгортваю любую старонку любой з пяці раніц Лобанавага тыдня і, здаецца, чую яго разважлівы голас: "Нарадзіўшыся, Слова стала размнажацца, пладзіцца, збірацца. Не грэбавала ніякімі спосабамі ўтварэння, ніякімі шляхамі ўзбагачэння. Стымулам была патрэба, хоць і не смяротная..." "Слова — багацце, ні з чым не параўнанае, багацце, якое здабываецца ў пакутах і аддаецца задарма". Цытаваць можна бясконца. На кожнай старонцы — россып моўных перлаў, здабытых з глыбіняў народнай мудрасці і духу. А яго "Размова з другам" — размова з глыбокім даследчыкам і аналітыкам маладой нашай прозы.

Прыйдзе час, і вернуцца да чытачоў новыя выданні сумленных і мудрых Лобанавых кніг, а слоўнікі, у якія ён уклаў неверагодныя сілы, веды і час, і сёння пад рукамі вучоных, настаўнікаў, рэдактараў, карэктараў і вучняў, сённяшніх і будучых службоўцаў.

Перш чым нешта расказаць пра Міколу Лобана, сам набыўся і нагаварыўся з даўнім, заўсёды ў памяці жывым другам. Здаецца, разам надыхаліся спелым борам, моўчкі, тужліва праводзілі жураўліныя ключы, адчулі свежы пах недалёкага снегу, уявілі досвіткі не сустрэтых ім раніц. Колькі?

Маўчанне... Адзінота... Жыве толькі памяць.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# «ДУШОЙ МАЛІЦЦА...»

Днямі стрэлася з кніжкай новых вершаў Эдзі Агняцвет "І смутак, і святло"... Якая трапная назва да старонак, вытканых — паэтычная аснова і ўток! — з непадробнага прадзіва жывога людскога жыцця! З яго непазбежнага святла і смутку.

...Колькі ўжо разоў і сабе самой казала — і не толькі сабе: "Усё! Усё, што мела за душою, і як умела, сказала". Зрэшты, і гады загадваюць: "Спыніся! Ты ж добра ведаеш і бачыш, што здараецца, калі..."

І спыняюся. І падоўгу маўчу. І паныла працягваю існаваць у бязмоўным зняволенні.

І раптам — зноў стрэча!

Часам усяго толькі некалькі паэтычных радкоў. Ці выпадкова прачытаная старонка... Аўтара, якога ведаеш ужо сто гадоў, або зусім не ведаеш. І тады нібыта падхоплівае цябе такім неабходным табе віхрам, зрывае і ўздымае з ненавіснае прывязі... І зноў вяртаецца твая невылечная хвароба, што, як ні дзіўна, лечыць і ратуе цябе, шчасліва абнаўляючы знямелую душу.

**Нібы жыцця майго падзея,**
**Мне песня чуецца адна:**
**Не пакідай мяне, вясна,**
**Не пакідай мяне, надзея...**
**Не пакідай мяне, Надзея!**

Хоць сама я люблю не вясну, а восень... Люблю — найболей — у яе зажураным адыходзе няскоранае — залатое і агністае! — паміранне.

Магчыма, сваімі думкамі і разважаннямі я дам падставу для актыўнага пярэчання не толькі некаторых літаратурных крытыкаў і адданых чытачоў шматлікіх кніжак Эдзі Агняцвет для дзяцей. Магчыма, выклічу і самой паэткі — яе ўласную — нязгоду.

Эдзі Агняцвет — агульнапрызнаны талент і аўтарытэт у нашай беларускай дзіцячай літаратуры. І гэта не выпадкова. На паліцах школьных і дзіцячых бібліятэк яе кнігі не нудзяцца і не стамляюцца ад адзіноты. Яны заўсёды ў працы — на руках сваіх чытачоў-сяброў. Разам яны жартуюць і гарэзяць, смуткуюць і захапляюцца, разам вучацца "разумнаму, добраму, вечнаму..."

Эдзі Агняцвет і Васіль Вітка — адзіныя ў Беларусі дыпламанты Ганаровага Дыплома Х. К. Андэрсена. Іх імёны разам з іншымі — не такімі ўжо шматлікімі абраннікамі сусветнай дзіцячай літаратуры — занесены ў Кнігу гонару.

І ўсё роўна. Усё роўна... Не пагаджуся, што Эдзі Агняцвет толькі паэтка дзіцячая. А яе пранікнёная "дарослая" лірыка? А паэтычна асэнсаваны свет музычных захапленняў, наканаваны ёй з маленства? А стыхія перакладу-перастварэння паэтычных узораў з іншых моў? З рускай, украінскай, літоўскай, латышскай, узбекскай... Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Ісакоўскі, Уладзімір Сасюра, Саламея Нерыс, Зульфія, Муса Джаліль, Гульчахра Сулейманава... Адметная з'ява ў творчасці Эдзі Агняцвет — пераклады з французскай мовы, якую вывучала яна ўжо ў сталым веку: Віктор Гюго, П'ер Беранжэ, Апалінэр, Луі Арагон...

Нарэшце, нельга абысці ўвагай і заўсёдны самы актыўны ўдзел паэткі ў агульным творчым працэсе беларускай літаратуры — зусім не толькі дзіцячай.

...Славуты Карней Чукоўскі не любіў і страшэнна злаваў, калі яго "пераводзілі" выключна толькі "па ведамству" дзіцячай літаратуры. Хоць, здаецца, яго ўжо "Мойдадыра" ведала ўся дзятва "ад Масквы да самых да ўскраін"... Злаваў. Не любіў... Бо яно

Эдзі Агняцвет
І смутак, і святло

так і было: хіба сапраўдную вагу гэтага неабмежавана-унікальнага таленту магчыма было абмяжоўваць тым яго настырным "Мойдадырам" ці нейкай там дакучлівай "Мухай-цакатухай", або няхай сабе і надзённа-павучальным "Фядорыным горам"?

Я не збіраюся рабіць ніякіх параўнанняў, ніякіх спасылак на добра вядомыя ўсім аўтарытэты. Мне — асабіста — у літаратуры заўсёды непрымальныя катэгарычныя "выгарадкі": той — дзіцячы, той — юначы... А гэты, як ніхто іншы, патрыёт — пад гітару — беларушчыны. А ў таго ледзь не манаполія на вершаваную чарнобыльскую бяду... А то яшчэ іншы з рамана ў раман нястомна ўздзіраў дзірваны нацыянальнай мінуўшчыны. З усімі яе князямі трымаўся за пана-брата... А потым, раптам, на гэтых замацаваных за творцамі "валоках" адбываліся часам такія метамарфозы!..

Ах, грахі нашы цяжкія! І літаратурныя таксама...

**Сярод турбот мы адвыкаем**
**І ад сустрэч, і ад лістоў.**
**Як дзверы, сэрца замыкаем**
**Ад злодзеяў і ад сяброў...**

Гэта зноў я вярнулася ў "Смутак і святло" Эдзі Агняцвет. Невялічкая памерам кніжка, з густам аформленая таленавітым мастаком Мікалаем Казловым, пабачыла свет — "набрала заказ", як сёння кажуць, 1 300 асобнікаў. Кажуць, сёння гэта нядрэнны заказ. І сапраўды: хто б з нас, пісьменнікаў, не пацешыўся б сёння, каб яго кнігу захацелі чытаць адразу тысяча трыста чалавек! А яшчэ ж у іх, пэўна, будуць слухачы і тыя, хто захоча таксама патрымаць сам у руках светлую паэтычную кніжачку, захоча пагрэцца ад яе прыветнага цяпла, ад дабрыні, што нязмушана бруіцца з яе старонак.

"І смутак, і святло" — лірычная споведзь паэткі перад чытачом, Яе боль і клопат пра людскую адзіноту і замкнёнасць чалавечых душ, пра недавер і недабрыню — і не — спагаду чалавека да чалавека. Асэнсоўваючы сённяшні няўдзячны лёс свайго пакалення, свае радзімы і зямлі, паэтка з прысутным ёй у яе творчасці заўсёдным спадзяваннем усё ж не губляе веры ў чалавека, у яго мудрасць і дабрыню. У адраджэнне Беларусі, яе мовы і яе песень. Такі лейтматыў новых паэтычных старонак Эдзі Агняцвет.

**Не толькі ж фарбы чорна-шэрыя**
**Жыццём валодаюць штодня.**
**Жыццё мяне сагрэла вераю —**
**Ёсць Чалавек. Ёсць Дабрыня.**

І гэта несумненна памагае перараадольваць паэту цяжар і штодзённай будзёншчыны, і часу, і гадоў. Гэта дорыць шчаслівыя моманты паэтычнага вяртання ў маладосць, дзе засталіся сцежкі незабыўнага непаўторнага "даўняга"... Прачытайце гэтыя радкі, прыслухайцеся да іх шчырага гучання, і вы зразумееце, што вершы, народжаныя, як быццам гэтак лёгка і няўзнак, маюць чароўную здольнасць нагадаць і нам, чытачам, пра тое, пра што мы вельмі рэдка задумваемся.

**Я скідваю з плячэй гадоў цяжар,**
**На момант аб напасцях забываю.**
**І маладосць мая глядзіць з-за хмар,**
**Я сцежкі гаю даўняга шукаю.**
**Не смейцеся!**
**Не трэба эпіграм,**
**Калі блукаю па слядах кахання...**
**Настане час,**
**і боль падкажа вам**
**Часцей вяртацца да свайго вяртання.**

І боль сапраўды падказвае нам: не забывайце ні таго, што неўпрыкмет, нават прыносячы пакуты і страты, складае змест вашага жыцця, ні тых, хто быў спадарожнікам у гэтым вашым жыцці.

Мяне заўсёды хвалюе і выклікае ўдзячнае суперажыванне тэлевізійная перадача "Чтобы помнили" па расійскай праграме, якую вядзе вядомы кінаартыст Леанід Філатаў. Гэты пранікнёны ўспамін-аповяд пра акцёраў, што таленавіта служылі кінаэкрану і аддавалі яму ўсё, на што былі яны здольныя ў сваім жыцці, мае перш за ўсё вялікі этычны змест: не забывайце пра тых, хто, не думаючы пра сябе, дарыў вам хвіліны незабыўнай радасці і захаплення. І хто пакінуў ужо вас... Не забывайце пра іх, удзячныя ім...

(Якое ўсё ж, калі параўнаць, беднае і прымітыўнае наша беларускае тэлебачанне. Не ўмее яно ні шчыра ўсцешыцца з уцешнага, ні па-чалавечы, па-людску ўспомніць, засмуціцца, пашкадаваць... Так нейкі альбо бязладна-выскаляльны гвалт, калі надта "весела", альбо панурая абыякавая хуткабалбатня там, дзе балюча...)

У кніжцы новых вершаў Эдзі Агняцвет не забытыя, удзячна ўспомненыя не адно дарагое ёй імя. Не адна балючая згадка назаўсёды засталася ў сэрцы паэткі... Можна толькі ўявіць, з якім адчуваннем хадзіла сама яна штодня ташкенцкімі завулкамі да турэмнага акна, дзе за кратамі бязвінна пакутавала яе маці. Якая ўдзячнасць поўніла яе сэрца да сяброў, што са сваіх нішчымных "ваенных пайкоў" нешта ж адрывалі яшчэ і ёй. І хіба здольная была яна забыць, што на свеце ёсць — ёсць! — "людзі праўдзівыя, святыя"?

**Колас!**
**Колас! Мудры наш паэт.**

Гэта ён "у часіны самыя крутыя", сам пакутуючы ўдалечы ад роднае зямлі, сам страціўшы на вайне любага сына, гэта ён памог вырвацца на свет з няволі і маці паэткі... "Перад ім схіляюся з паклонам". (Верш "Перажытае").

Светлай памяці Міхаліны Ляшукевіч — "праведніцы з вёскі Лашукі", якая ратавала, не маючы ўласных дзяцей, і выратавала дзвюх дзяўчынак з яўрэйскага гета, прысвечаны верш "Міхаліна".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**Вялікай папулярнасцю ў Віцебскай школе мастацтваў карыстаецца аддзяленне харэаграфіі. Яго выхаванцы часта выступаюць перад гараджанамі. Летам на сцэне абласной філармоніі з поспехам прайшоў іх справаздачны канцэрт.**

**НА ЗДЫМКУ: выступаюць выхаванцы аддзялення харэаграфіі Віцебскай школы мастацтваў.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# МОСТ З НАВАХАЛЭНДА

Беларускія яўрэі далі свету мноства вялікіх людзей. Яны не перасталі быць беларускімі яўрэямі ні ў другім, ні ў трэцім пакаленні імігрантаў — нават цалкам страціўшы рускую мову — ні на адным з кантынентаў, уключаючы Амерыку. "Маніфестам лёсу" беларуска-амерыканскіх яўрэяў з'яўляецца тое, што яны спачатку каланізавалі Беларусь, а потым Амерыку і сфармавалі свае мадэлі "напластаваных" кантактаў з карэнным насельніцтвам. Вось яшчэ адзін цікавы факт для даследчыкаў гэтага феномена.

14—15 кастрычніка 1996 года ў Мінску ў праграме І Міжнароднага фестывалю "Індыян спірыт" адбыліся выступленні флейтыста, спевака і апавядальніка Уільяма Язі. Індзеец наваха з Арызоны не быў першым прадстаўніком карэнных амерыканцаў, які з'явіўся на тэрыторыі Беларусі, у Мінску і ў памяшканні Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Але гэта быў першы спецыяльна арганізаваны прыезд індзейца ў Беларусь — сапраўды гістарычная падзея, калі памятаць, што ў гэта "бабіна", або "індзейскае", лета нас адкрываў для сябе першы і адзіны законны гаспадар Амерыкі.

Гэта стала магчымым дзякуючы энергіі беларускіх індзеяністаў, найперш Алега Жылінскага, і "індзейскага агента" Гордана Браніцкага з Дэнвера, штат Каларада. Бацькі Браніцкага прыехалі ў ЗША з Мінска; д-р Браніцкі, антраполаг па адукацыі, — добры прафесіянал у справе арганізацыі культурных кантактаў індзейскай Амерыкі з астатнім, "заакіянскім" светам.

Адной з ідэй, якія выказаў Браніцкі ў Мінску, было адкрыццё тут спецыялізаванай крамы, дзе маглі б прадавацца цудоўныя вырабы індзейскіх майстроў, дзе маглі б дэманстраваць свае ўмельствы, майстэрства індзейцы з розных плямёнаў, якіх і прыцягваў бы сюды гэты "дыялогавы" цэнтр культур.

Знойдуцца людзі, якія скажуць, што Гордан Браніцкі, як і Джордж Сорас, дзялок, яўрэй і можа рабіць грошы праз спекуляцыю, бо гэта універсальны закон гандлю або эканамічнай вайны паміж чалавечымі індывідамі, якая пермаментна ідзе ў свеце; але ў той жа час ён, як і Сорас, можа пускаць "несумленна зробленыя" грошы на добрую справу. Тое ж тычыцца дзяржаўных установ ЗША і прыватных кампаній, якія часта становяцца спонсарамі культурных мерапрыемстваў, закліканых, у рэшце рэшт, спрыяць змякчэнню "вайны".

"Почему бы нет", — часта паўтараў м-р Браніцкі.

Зусім рэальнымі здаюцца яму і сумесныя гастролі ў Беларусі індзейскіх і яўрэйскіх выканаўцаў.



У Альбукерку, штат Нью-Мексіка, дзе вырас Гордан, ёсць нават асобная арганізацыя для каардынацыі яўрэйска-індзейскага дыялога. Амерыка нараджае і не такія, дзіўныя толькі на першы погляд, ідэі. Беларусь, "абганяючы" Амерыку, паглыбляе змест дыялога, карыстаючыся паслугамі амерыканцаў рознага паходжання для наладжвання адносінаў з асобнымі плямёнамі.

"Яўрэйская" праграма Беларуска-індзейскага таварыства, адным з ініцыятараў якой быў цяперашні жыхар Каліфорніі Эдуард Гуткін, заснавальнік гомельскай яўрэйскай гісторыка-асветніцкай арганізацыі "Талдот вэ Гаскала", ахоплівае прастору ад Сан-Францыска да мыса Горн, ад народа любіконаў у Канадзе да ўічы, тоба і чулупі у Аргенціне.

Суайчыннікі могуць запрасіць індзейскіх мастакоў і музыкантаў у любое месца на Зямлі, дзе ёсць беларуская абшчына, праз БІТ і Гордана Браніцкага, які забяспечвае праекты фінансаваннем грантамі: **246049, Гомель, а/с 114, тэл. (0232) 481544.**

**Алесь СІМАКОЎ,**
**выканаўчы сакратар**
**Беларуска-індзейскага таварыства.**

СПОРТ

## УСЁ ТАК НЕПРАДКАЗАЛЬНА

А часам і незразумела. Скажам, гандбалісты мінскага СКА ў цяжкай барацьбе заваявалі права выступаць у групе мацнейшых каманд першынства Еўропы дзякуючы перамозе над аўстрыйцамі ў родных сценах. Потым жа нечакана адмовіліся праводзіць фінальныя гульні дома. Чаму? Традыцыйны адказ афіцыйных асоб ("з-за фінансавых цяжкасцей") не задаволіў аматараў спорту Беларусі.

Добра вядома, што без іх падтрымкі спартсмены, як правіла, гуляюць няўдала. Вось і ў першым фінальным матчы мінчане з буйным лікам 15:27 прайгралі ў Германіі мясцоваму "Кілю".

Другая нечаканасць. Футбалісты мінскага "Дынама", шматразовыя чэмпіёны Беларусі, не змаглі выйграць залатыя медалі. Мацнейшым клубам першынства 1996 года сталі спартсмены мазырскага МВКЦ. А сталічныя ж футбалісты складаюць касцяк зборнай, якая цяпер праводзіць адборачныя гульні першынства свету. Дарэчы, праводзіць не вельмі ўдала: пасля чатырох сустрэч займае толькі чацвёртае месца ў сваёй групе.

Давялося тэрмінова мяняць галоўнага трэнера. Цяпер зборную Беларусі будзе ўзначальваць былы варатар Міхаіл Вергеенка.

Яшчэ адзін сюрпрыз з ліку непрыемных і нечаканых. Шматразовы алімпійскі чэмпіён, вядомы ўсяму свету гімнаст Віталь Шчэрба заявіў, што прыняў рашэнне памяняць беларускае грамадзянства на амерыканскае. Хацелася б верыць, што гэта несур'ёзна, паспяшаўся Віталь з такой заявай, бо чаго тады вартыя яго словы, сказаныя нядаўна журналістам: "Я магу жыць на Чукотцы, у Італіі альбо Аўстрыі, аднак заўсёды ведаю, што Шчэрба застанецца грамадзянінам Беларусі".

Час пакажа, ці ўспомніць гэтыя словы вядомы гімнаст.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## МАЙСТРЫ



Вядомы ў Глуску майстар разьбы па дрэву Мікалай Ячмянькоў атрымаў магчымасць праславіцца яшчэ больш: яго прыяцеля, тасама глушчаніна Аляксандра Фастаўца запрасілі прыняць удзел у папулярнай тэлеперадачы "Поле цудаў". А падарунак для музея гэтай перадачы — пано з адлюстраваннем беларускіх зуброў — вырабіў Мікалай Ячмянькоў.

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай ЯЧМЯНЬКОЎ з унукам і сваімі творамі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# «ДУШОЙ МАЛІЦЦА...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

"Шануйце маці!" — заклікае Эдзі Агняцвет у сваім, як сама яна кажа, "зусім не святочным вершы". І вершаванымі радкамі апавядае пра чорную чалавечую няўдзячнасць — пра сына, які "выганяў старую маці на мароз"... Бо яму, бачыце, было зацесна ў яго кватэры...

**— Чакай, сынок! Адумайся, сынок!**
**А ці ж не я цябе карміла, грэла!**

Такая яна, сённяшняя, ганебная наша сапраўднасць. Дзеці здольныя звезці старую непатрэбную (!) маці ў багадзельню. Маладая маці без слязінкі адмовіцца ад свайго немаўляці.

Гэты сапраўды "не святочны" матыў як бы знарок прыцішаны зусім іншым — празрыстым і чыстым смуткаваннем з верша "Флейтыст". Бацька-музыкант адышоў з жыцця, але дачка яго і праз гады, здаецца, чуе голас яго флейты, што "сапуём залётным" высвістае Бахаву "Сіцыліяну".

**Сіцылія,**
**Сіцылія,**
**Сіцыліяна.**
**Жалейка ж адгукаецца:**
**"Ой, рана на Івана!"**

...Цікоцкі, Лукас, Пукст — музычнае водгулле іх прысутнасці і сёння "гарачым токам" узносіць сэрца паэткі — жыццё яе з маленства, з маладосці і да сённяшняга сталага веку не ўяўнае без музыкі ("Маё старое піяніна"). У сценах яе кватэры "ўсходзяў Глебаў малады", "прыходзіў з юнаю "Алесяй" сюды лірычны Лучанок".

Якія натхнёныя вершы, прысвечаны — яшчэ калі ён быў, калі ён жыў і сябраваў з ёю — Пімену Панчанку:

**Не для раскошы,**
**не для золата**
**Жыве, пакутуе Паэт.**
**Трывожна,**
**іранічна, молада,**
**Як і раней, глядзіць на свет**
**Вачыма добрымі і злоснымі,**
**З гаркотай,**
**з верай і тугой.**
**Такім вачам**
**не быць зайздроснымі**
**Да славы тлумнай і пустой!**

Такім Пімен Панчанка застаўся ў вершах Эдзі Агняцвет. Такім застаўся ён у памяці ўсіх, хто яго ведаў.

Немагчыма расказваць-пераказваць вершы. Тым больш, калі ты не крытык, не літаратуразнаўца, а толькі чытач (праўда — не абыякавы!). Ды і ці ёсць такая пільная ўжо патрэба пераказваць-аналізаваць (як быццам гэта магчыма) усе вершы ўпрыцён. Вершы трэба чытаць! І самому — кожнаму альбо хіліць іх да грудзей, альбо... Сціпную кніжачку "І смутак, і свята" і хіліш я да грудзей, і сама да яе хілюся... І не ўтрымаюся, каб на развітанне яшчэ не прачытаць з яе верш. "Цягнікі":

**Паэт развітваўся з паэзіяй:**
**— Хай пішуць маладыя, дзёрзкія!**
**А мой цягнік, як кажуць, адышоў...**
**Забыўся ён, што цягнікі**
**І адыходзяць,**
**і вяртаюцца**
**З паўстанкаў,**
**з водараў лясных,**
**Світанкаў росных,**
**З таямнічага змяркання.**
**З незабытага кахання...**

Можа, і праўда?..

Калі і сапраўды, як прагучала ў "Музыцы" Эдзі Агняцвет: "Душой маліцца"...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1234. Падпісана да друку 18.11.1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.